

"Каб усе былі адно" (Ян 17, 21)

# Царква

№ 3 (46), 2005 КРЫЖАЎЗВЫШЭНЬНЕ

***«Патрыярх Якуб даў вобраз Крыжа Твайго, Хрысьце, калі блаславіў унукаў, усклаўшына іхнія галовы накрыж рукі свае. Мы ж сёньня, Збавіцелю, узносім крыж і клічам: дай перамогу над усімі нягодамі Царкве Тваёй і захавай яе ў супакоі!»***

*(З Ліцьці на Вячэрні сьвята Крыжаўзвышэньня; пар. Быц 48).*

Гэты старажытны крыж — каштоўная і вельмі шанаваная сьвятыня католікаў у сіцылійскім гарадку Разаліні, які зьяўляецца горадам-пабрацімам нашага Нясьвіжу. У Разаліні, у сем'ях мясцовых вернікаў, рэгулярна адпачываюць беларускія дзеці.

## Навука аб Крыжы

Бо слова пра крыж — ёсьць дурасьцю для тых, што ідуць да загубы, для нас жа, якія збаўляемся,— сілаю Божаю. Бо напісана: загублю мудрасьць мудрацоў і розум разумных зьнішчу. Дзе мудрэц? Дзе вучоны? Дзе дасьледчык гэтага веку? Ці ж не ўчыніў Бог мудрасьць сьвету дурасьцю? Бо калі сьвет сваёй мудрасьцю не пазнаў мудрасьці Божай, захацеў Бог дурасьцю прапаведаваньня збавіць тых, што вераць. Дык вось, калі габрэі жадаюць знакаў,а грэкі шукаюць мудрасьці, мы абвяшчаем Хрыста ўкрыжаванага, які зьяў-ляецца спакусаю для габрэяў, дурасьцю для паганаў, а для пакліканых — ...Хрыстом, Божай сілаю і Божай мудрасьцю, бо дурное Божае мудрэйшае за людзей, і слабое Божае дужэйшае за людзей.

*(1 Кар 18-25).*

*"Слаўны цуд! Шырыня і даўжыня Крыжа роўная небу, бо ён асьвячае нас Боскаю ласкаю, перамагае нязбожных ворагаў і ўмацоўвае справядлівасьць. О Боскае Дрэва, табою мы ўзыходзім да неба і ўзьвялічваем у песьнях Хрыста Госпада!"*

*(З пахвальных псальмаў Ютрані на сьвята Крыжаўзвышэньня).*

## Новы сьвятар у нашай Царкве — а. Андрэй Крот

Нарадзіўся 12.09.1975 у в. Бабровічы Івацэвіцкага р-ну. жыў і вучыўся ў г. Івацэвічы на Берасьцейшчыне.

У 1994 г. паступіў на гістарычны факультэт Берасьцейскага дзяржаўнага ўніверсітэту, які скончыў у 1999 г. па сьпецыяльнасьці «гісторыя і сацыяльна-палітычныя дысцыпліны». У 1996-1999 гг. вучыўся таксама ў Баранавіцкім катэхетычным каледжы.

З 1999 г. — семінарыст БГКЦ. У 2004 г. скончыў Вышэйшую духоўную рыма-каталіцкую семінарыю ў Драгічыне (Польшча). Магістар тэалогіі. Навуковую працу па тэме «Апалагетычная дзейнасьць Фабіяна Абрантовіча» абараніў у 2003 г. на Папскім тэалагічным факультэце ў Варшаве. Там жа працягвае навучаньне на ліцэнзіяцкім курсе.

Біскуп Івана-Франкоўскі Сафрон Мудры 4 сакавіка 2005 году высьвяціў Андрэя Крата на дыякана, а 2 ліпеня 2005 году ў Івана-Франкоўску Найдастойны Ўладыка Сафрон удзяліў яму сьв. Тайну Сьвятарства *(гл. фота на с. 1, 16)*. Душпастырскую практыку а. Андрэй Крот праходзіў у Пінску, у грэка-каталіцкай парафіі сьв. Кірылы Тураўскага.

З 2004 г. ён зьяўляецца адказным рэдактарам газеты «Царква». Жыве ў Пінску, мае жонку Кацярыну.

Дэвізам свайго сьвятарскага служэньня абраў словы: ***«Калі я абвяшчаю Евангельле, дык няма мне славы, бо на мне ляжыць абавязак і гора мне, калі я не абвяшчаю Евангельля!"** (1 Кар 9, 16).*





ЯН ПАВЕЛ II

# Акт давярэньня сьвету Божай Міласэрнасьці

*Божа, Ойча Міласэрны,*
*Які абʼявіў Сваю любоў*
*у Тваім Сыне — Хрысьце Ісусе,*
*і выліў яе на нас у Духу Сьвятым — Суцяшальніку,*
*Табе давяраем сёньня лёсы сьвету і кожнага чалавека.*

*Будзь прыхільны да нас, грэшных,*
*ацалі нашыя немачы,*
*зьнішчы ўсялякае зло,*
*дазволь усім людзям зямлі*
*зьведаць Тваю Міласэрнасьць,*
*каб у Табе, Трыадзіны Божа,*
*заўсёды знаходзілі крыніцу надзеі.*

*Ойча Спрадвечны,*
*дзеля балеснае мукі Сына Твайго і ўваскрасеньня Яго,*
*будзь міласэрны да нас і сьвету ўсяго!*
*Амін.*

# Пастырскі зварот

## АПОСТАЛЬСКАГА ВІЗІТАТАРА ДЛЯ ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ БЕЛАРУСІ

## *на сьвята Ўзвышэньня Пачэснага Крыжа Гасподняга 2005 году*

**Вялебныя Айцы Сьвятаслужыцелі!**
**Дарагія Манахі, Манахіні і Браты Семінарысты!**
**Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!**
**Дарагія Сябры!**

**1**. З бязьмежнай ласкі Міласэрнага Хрыста Чалавекалюбцы мы ўвайшлі 1 верасьня ў Новы Царкоўны Год — год новых душпастырскіх заданьняў і высілкаў.

Гледзячы на мінулы час вакацыяў, хочам падзякаваць Багатаму на міласэрнасьць Богу за магчымасьць правядзеньня шматлікіх акцыяў катэхізацыі ды духовага фармаваньня для дзяцей, моладзі ды вернікаў нашае Царквы — летнікаў, пілігрымак, рэкалекцыяў.

Наша агульнацаркоўная пешая Пілігрымка з Віцебску ў Полацак для ўшанаваньня мучанікаў-базыльянаў у 300-тыя ўгодкі іхняе сьмерці, а таксама наш удзел разам з братамі лацінскага абраду ў пілігрымках у Будслаў, Тракелі, Росіцу былі каштоўнай нагодай, каб асэнсаваць нашае хрысьціянскае пакліканьне ў Супольнасьці Паўсюднай Царквы. Асабліва важнай у гэтым плане была Пілігрымка моладзі нашае Царквы на Сусьветны Дзень Моладзі ў Кёльн.

З вялікай увагай успрымаем навучаньне Сьвятога Айца Бенядыкта XVI у Кёльне, які заахвочвае нас да евангелізацыі: **«Той, хто адкрыў Хрыста, павінен весьці да Яго іншых, бо нельга ўтрымаць для сябе самога тую вялікую радасьць, якая гэта суправаджае. Неабходна перадаваць яе іншым»** *(Бенядыкт XVI, Гамілія на заканчэньне Сусьветнага Дня Моладзі ў Кёльне, 21.08.2005).*

На шляху евангелізацыі няхай суправаджае нас сваімі малітвамі Найсьвяцейшая Багародзіца, Нараджэньне Якой Царква сьвяткавала ў першыя дні новага царкоўнага году — 8 верасьня.

**2**. Сьвята Ўзвышэньня Пачэснага Крыжа Гасподняга ўводзіць нас у глыбіню бязьмежнай Міласэрнасьці Бога да кожнага чалавека. На Вячэрні сьвята сьпяваем стыхіру:

***Сёньня споўнілася сьвятое слова прарока Давіда,***
***бо вось пакланяемся падножжу ног Тваіх, Усядобры Госпадзе,***
***і — спадзеючыся на ахову крылаў Тваіх — клічам:***
***«Шматміласэрны Хрысьце,***
***хай зьявіцца нам сьветласьць Аблічча Твайго».***

Шматміласэрны Хрыстос дазволіў сьвятарам, семінарыстам і некаторым душпастырскім лідарам нашае Царквы 20-24 ліпеня прыняць удзел у Міжнародных рэкалекцыях, якія ў Санктуарыюме Божае Міласэрнасьці ў Кракаве-Лагеўніках (у Польшчы) узначальвалі кардынал г.Вены Хрыстафор Шэнбарн і кардынал г. Ліёну Філіп Барбарэн.

У гэтым Санктуарыюме 17 жніўня 2002 году Папа Ян Павел II зьдзейсьніў урачысты «Акт давярэньня сьвету Божай Міласэрнасьці». Удзельнікі Міжнародных рэкалекцыяў паўтарылі гэты Акт ад імя сваіх памесных Цэркваў і краінаў. У гэтай міжнароднай супольнасьці гучала таксама малітва за Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву і за Беларусь.

Літургічнае ўшанаваньне Пачэснага і Жыцьцядайнага Крыжа Гасподняга, які нясе перамогу над злом і магутную духовую сілу, заахвочвае нас, каб у дзень сьвята, 14 верасьня, або ў бліжэйшую нядзелю — 18 верасьня гэтага году, паўтарыць у нашых парафіях і ў нашай асабістай малітве «Акт давярэньня сьвету Божай Міласэрнасьці». Няхай на парозе Новага Царкоўнага Году будзе гэта выразам малітвы за нашую Царкву і за нашую Бацькаўшчыну Беларусь. Спалучым гэты Акт з Боскай Літургіяй, у якой зьдзяйсьняецца Тайна Еўхарыстыі — Сакрамант Божае Міласэрнасьці.

**«Еўхарыстыя — гэта крыніца і вяршыня ўсяго хрысьціянскага жыцьця»** *(II Ватыканскі Сабор, Дагматычная Канстытуцыя пра Царкву «Lumen gentium», 11).* Няхай наш удзел у кожную нядзелю ў гэтым Сакраманце Божае Міласэрнасьці ўзмацняе ўсе нашыя парафіяльныя супольнасьці і ўсіх вернікаў нашае Царквы.

**Хай блаславіць вас Шматміласэрны Хрыстос-Чалавекалюбец.**

*Рым-Менск, 14 верасьня 2005 году,*
*Сьвята Ўзвышэньня Пачэснага Крыжа Гасподняга.*

+ архім. Сергей Гаек

**+ Архім. СЯРГЕЙ (ГАЕК), Апостальскі Візітатар**




# «Прыйшлі пакланіцца Яму»

**Беларуская грэка-каталіцкая моладзь прыняла ўдзел у XX Сусьветным Дні Моладзі ў Кёльне**

З 16 па 21 жніўня 2005 году сотні тысячаў маладых вернікаў з усяго сьвету зьехаліся ў Нямеччыну, у Кёльн, на XX Сусьветны Дзень Моладзі. Кёльн нездарма быў абраны сталіцаю спатканьня моладзі. Яшчэ з часоў сярэднявечча гэты нямецкі горад зьяўляецца мэтаю шматлікіх пілігрымаў, бо ў знакамітым Кёльнскім Саборы захоўваюцца рэліквіі Трох Мудрацоў, якія прыйшлі пакланіцца нованароджанаму Ісусу (Мц 2, 1-12). І менавіта таму словы з Евангельля паводле Мацьвея: «Прыйшлі пакланіцца Яму» (Мц 2, 2) сталі дэвізам сёлетняга Сусьветнага Дня Моладзі.

Сусьветныя дні моладзі папярэджвае падрыхтоўка, якую пілігрымы праходзяць у розных япархіях краіны, у якой адбываецца гэтае спатканьне, альбо ў царкоўных супольнасьцях. Для беларускіх грэка-католікаў такой падрыхтоўкай стаў удзел у моладзевым форуме на радзіме Слугі Божага Яна Паўла II у польскім горадзе Вадавіцы, які ладзіць Супольнасьць «Эмануэль». Разам з беларусамі там былі таксама браты й сёстры з Украіны, Славакіі, Расеі, Францыі, Германіі. Удзел беларускай моладзі ў спатканьні ў Вадавіцах — гэта ўжо пэўная традыцыя, таксама добрай традыцыяй стала і ўсходняя літургія, якую служаць грэка-католікі з Беларусі і Украіны.

Пасьля Вадавіцаў беларуская моладзь накіравалася ў Нямеччыну. Чатырохдзённы фэст моладзі, які папярэднічаў сустрэчы моладзі з Сьвятым Айцом, адбываўся адразу ў трох нямецкіх гарадах — Кёльне, Боне й Дзюсельдорфе, якія складаюць адзіную гарадзкую кангламерацыю. Таму на адкрыцьцё фэсту сьв. Імша служылася адначасова ва ўсіх гэтых трох гарадах. У Кёльне ўрачыстую Еўхарыстыю служыў кардынал Ёахім Майснэр, архібіскуп Кёльна; у Дзюсельдорфе — кардынал Карл Леман, кіраўнік Канферэнцыі япіскапату Германіі, а ў Боне — біскуп Франц-Ёзаф Бодэ, кіраўнік камісіі па працы з моладдзю Канферэнцыі япіскапату Германіі.

Першую палову дня ў праграме пілігрымаў займалі катэхезы. Для беларусаў адметнасьцю гэтых Дзён Моладзі было тое, што тут, у Кёльне, упершыню ладзіліся катэхезы па-беларуску. Іх праводзіў рыма-каталіцкі дапаможны біскуп Менска-Магілёўскі Антон Дзямянка. Сьвятары з Беларусі абодвух абрадаў, якія прыехалі ў Кёльн з моладдзю з сваіх парафіяў, служылі таксама Сьвятую Імшу па-беларуску.

Сьвяты Айцец Бенядыкт XVI прыбыў у Кёльн у чацьвер 18 жніўня 2005 году. Гэта была першая пілігрымка Сьвятога Айца Бенядыкта XVI за межы Італіі і сымбалічна, што гэтае сваё падарожжа новы Папа Рымскі вырашыў прысьвяціць сустрэчы з маладымі вернікамі — будучым Царквы. Пасьля цырымоніі прывітаньня ў аэрапорце Папа накіраваўся ў рэзідэнцыю кёльнскіх біскупаў, якая знаходзіцца ў цэнтры горада недалёка ад Кёльнскай катэдры. На шляху, па якім ехаў Сьвяты Айцец, яго чакалі сотні тысячаў маладых пілігрымаў, якія горача віталі Бенядыкта XVI апладысьментамі.

У другой палове дня Сьвяты Айцец праехаў па вуліцах Кёльну ў накірунку набярэжнай Рэйну, дзе перасеў на невялікі карабель. Папа праплыў на цеплаходзе па Рэйну ў кірунку Бона, а потым меў прамову да пілігрымаў, якія сабраліся на беразе ракі ў ваколіцах рэйнскай энергастанцыі. «Адкрыйце шырока свае сэрцы на Бога, дайце Хрысту зьдзівіць сябе, прызнайце за ім права прамаўляць да вас»,— з такімі словамі Бенядыкт XVI зьвярнуўся да моладзі з карабля. У прамове, якую Сьвяты Айцец гаварыў на некалькіх мовах, ён параўнаў шлях маладых пілігрымаў, што прыбылі ў Кёльн, да падарожжа Трох Мудрацоў з Усходу, якія прыйшлі з далёкіх краёў, каб ушанаваць Ісуса. Ён дадаў, што сам прыехаў таксама як пілігрым, каб мець магчымасьць «укленчыць перад белай асьвячанай Гостыяй*, у якой вочы веры пазнаюць рэальную прысутнасьць Збаўцы сьвету».

Затым Сьвяты Айцец накіраваўся да Кёльнскага Сабору, каб там пакланіцца рэліквіям Трох Мудрацоў. Моладзь, якая ішла ў працэсіі разам з Сьвятым Айцом, несла крыж Сусьветных Дзён Моладзі і ікону Багародзіцы, якую падарыў моладзі сьвету Ян Павел II. У катэдры Бенядыкт XVI блаславіў маладых інвалідаў, якія таксама ўдзельнічалі ў Сусьветным дні моладзі. Затым Папа прамовіў да пілігрымаў, якія сабраліся перад саборам на плошчы Ранкальліпляц. Перад ад'ездам з пляцу Сьвяты Айцец таксама коратка памаліўся за супакой Брата Ражэ, заснавальніка экуменічнай Супольнасьці Тэзэ, які быў забіты 16 жніўня 2005 году.

Кульмінацыяй XX Сусьветных дзён моладзі ў Кёльне стала начное чуваньне і Імша з Сьвятым Айцом на полі Марыянфэльд, дзе сабралася каля мільёна маладых людзей з усяго сьвету. Нельга не адзначыць, што моладзь вітала новага Папу з ня меншым энтузіязмам, чым яго папярэдніка — Слугу Божага Яна Паўла II. Сам жа Бенядыкт XVI у сваіх прамовах вельмі часта зьвяртаўся да словаў свайго папярэдніка.

Для Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы XX Сусьветны Дзень Моладзі меў асаблівае значэньне. Наша моладзь, якая з 1991 году бярэ ўдзел у гэтым вялікім Форуме моладзі, упершыню прыехала даволі шматлікаю (каля 60 асобаў) і добра арганізаванаю групаю.

**а. Андрэй КРОТ**

** Гостыя (з лацінск.) азначае ахвяра: так называецца ў лацінскім абрадзе тонкі акруглы хлеб, які на літургіі становіцца Целам Хрыстовым. Ва ўсходняй традыцыі ёй адпавядае Агнец.*



*• Фота С.Карнелюка*

## СЯДЗІБА ЗЬВЕРХНІКА УГКЦ ПЕРАНЕСЕНА Ў КІЕЎ

***21 жніўня 2005 году адбылася важная гістарычная падзея ў жыцьці Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы: перанос рэзідэнцыі Першаярарха УГКЦ з Львова ў сталіцу Украіны Кіеў. Гэтую падзею можна трактаваць як момант аднаўленьня гістарычнай справядлівасьці, бо да прымусовага выгнаньня грэка-католікаў з Кіеву за часы царыцы Кацярыны там была галоўная сядзіба уніяцкіх мітрапалітаў.***



На падставе рашэньня Яго Блаславенства Любаміра (Гузара), Першаярарха УГКЦ, а таксама згодна з канонам 57 Кодэксу Канонаў Усходніх Цэркваў, пасьля зацьвярджэньня Сінодам Біскупаў УГКЦ, які адбыўся ў Кіеве 5-12 кастрычніка 2004 году, і блаславеньня сьвятой памяці Сьвятога Айца Яна Паўла II, сядзібай Вярхоўнага Архібіскупа УГКЦ з 21 жніўня 2005 году зьяўляецца г.Кіеў, сталіца Украіны. З гэтага дня тытул Зьверхніка УГКЦ падлягае зьмене з «Вярхоўны Архібіскуп Львоўскі» на «Вярхоўны Архібіскуп Кіеўска-Галіцкі».

Львоўскай архіяпархіяй пасьля 21 жніўня 2005 году і да моманту зацьвярджэньня новага архібіскупа будзе кіраваць менаваны Першаярархам УГКЦ адміністратар. (Ім стаў протасінкел Львоўскай архіяпархіі Уладыка Ігар Возьняк). Архібіскупа для Львоўскай архіяпархіі вызначыць сінод Біскупаў УГКЦ.

Пачатак дзейнасьці Вярхоўнага Архібіскупа Кіеўска-Галіцкага ў новым цэнтры быў адзначаны ўрачыстай Архірэйскай Боскай Літургіяй на пляцы, дзе будуецца Патрыяршы сабор Уваскрасеньня Хрыстова ў Кіеве. Яе ўзначаліў Яго Блаславенства Любамір (Гузар), Вярхоўны Архібіскуп Кіеўска-Галіцкі. З ім саслужылі Уладыкі, члены Сіноду біскупаў УГКЦ, а. Войцэх Залускі, часова паверанны ў справах Апостальскай Нунцыятуры ва Украіне ды шматлікае (больш за 100) духавенства. У Літургіі ўзялі ўдзел звыш трох тысячаў вернікаў. Гасьцямі гэтай урачыстасьці былі прадстаўнікі Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага Патрыярхату, Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Грузінскай Праваслаўнай Царквы, прадстаўнікі пратэстанцкіх Цэркваў і рэлігійных арганізацыяў, прадстаўнікі дзяржаўнай улады.

З нагоды ўрачыстасьцяў у Кіеве Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек накіраваў Першаярарху УГКЦ Вярхоўнаму Архібіскупу Кіеўска-Галіцкаму Яго Блаславенству Любаміру Прывітальнае Слова.

## ЕЎХАРЫСТЫЯ ЗАКЛІКАЕ ДА МІРУ І ЛЮБОВІ

26 чэрвеня 2005 году ў Львове на плошчы сьв. Яна Паўла II перад храмам Раства Багародзіцы на Сыхаве адбылася ўрачыстая Архірэйская Боская Літургія, якая прайшла ў рамках Усеўкраінскага Еўхарыстычнага Кангрэсу УГКЦ. Літургію ўзначальваў першаярарх УГКЦ Яго Блаславенства Любамір (Гузар). З ім саслужылі Архібіскуп Юзаф Міхалік, Старшыня Польскай Канферэнцыі Біскупаў РКЦ, члены Сіноду Біскупаў Кіеўска-Галіцкай Мітраполіі УГКЦ, Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек), шматліае духавенства абодвух абрадаў. У Кангрэсе ўзялі ўдзел таксама групы пілігрымаў грэка-католікаў з Беларусі і Расеі.

Перад пачаткам Літургіі было прачытана Пасланьне каталіцкіх біскупаў Украіны і Польшчы з нагоды акту ўзаемнага прабачэньня і паяднаньня паміж народамі.

16-17 ліпеня ва ўкраінскім марыйным духоўным цэнтры ў Зарваніцы адбылася Усеўкраінская пілігрымка сем'яў "Еўхарыстыя — крыніца любові і еднасьці ў сям'і". Сярод 200 тысячаў пілігрымаў з Украіны і Польшчы была таксама й група грэка-католікаў з Беларусі (з Берасьцейшчыны і Слоніма), якую ўзначальваў Апостальскі Візітатар БГКЦ Архім. Сяргей Гаек. Малебен да Зарваніцкай Божай Маці і Архірэйскую Боскую Літургію служыў Першаярарх УГКЦ.



## МІЖНАРОДНЫЯ РЭКАЛЕКЦЫІ Ў КРАКАВЕ

***20-24 ліпеня 2005 году ў санктуарыюме Божае Міласэрнасьці ў Кракаве-Лагеўніках (Польшча) праходзілі міжнародныя рэкалекцыі, якія ўзначальвалі кардынал г.Вены Хрыстафор Шэнбарн і кардынал г.Ліёну Філіп Барбарэн.***

У гэтых рэкалекцыях бралі ўдзел беларускія грэка-каталіцкія сьвятары, некаторыя семінарысты, а таксама душпастырскія лідары нашае Царквы. Іх прысутнасьць дала магчымасьць удзельнікам рэкалекцыяў памятаць у малітве пра Беларусь і, асабліва, пра душпастырскую місію Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.

## Урачыстасьці каранаваньня абраза Маці Божай у Горадні

***У нядзелю, 28 жніўня 2005 году, у Горадні адбылася ўрачыстая каранацыя папскімі каронамі цудатворнага абраза Маці Божай Кангрэгацкай, які знаходзіцца ў гарадзенскай рыма-каталіцкай катэдры Ўзвышэньня Сьвятога Крыжа.***

Шматтысячная працэсія вернікаў прайшла вуліцамі старажытнага гораду за абразом Найсьвяцейшай Багародзіцы. Каля пабернардынскага касьцёлу Ўзвышэньня Сьвятога Крыжа адбылася галоўная сьвятая Імша, якую ўзначаліў кардынал Казімір Сьвёнтэк. Разам з ім сьвятую Імшу саслужылі кардынал Генрык Гульбіновіч з Уроцлава, Апостальскі Нунцый у Беларусі архібіскуп Марцін Відавіч, мітрапаліт дыяцэзіі Маці Божай у Маскве архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, мітрапаліт Беластоцкі архібіскуп Войцех Земба, біскуп Драгічынскі Антон Дыдыч, біскуп Сандамірскі Анджэй Дзенга, біскупы Тадэвуш Пікус з Варшавы і Тадэвуш Завістоўскі з Ломжы, ардынарый Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін, дапаможныя біскупы Антон Дзямянка з Менску й Казімір Велікаселец з Берасьця, а таксама сакратар нунцыятуры пралат Генрык Ягадзінскі, генеральныя і правінцыяльныя суперыёры манаскіх супольнасьцяў, сьвятары з Польшчы і Літвы ды шматлікія сьвятары з розных дыяцэзіяў Беларусі.

З блаславеньня Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў Беларусі архімандрыта Сяргея Гаека нашу Царкву на ўрачыстасьцях каранацыі прадстаўлялі Протапрасьвітар Віктар Данілаў з Горадні і віцебскі парах а. Зьміцер Грышан. Вернікі гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай таксама далучыліся да гэтых урачыстасьцяў.

На каранацыі абраза Маці Божай Кангрэгацкай прысутнічалі таксама прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы, прадстаўнікі дыпламатычнага корпусу, старшыня Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў сп. С.Буко, прадстаўнікі абласных і гарадзкіх уладаў.

Падчас сьвятой Імшы цудадзейны абраз Маці Божай Кангрэгацкай быў укаранаваны папскімі каронамі, якія пасьвяціў яшчэ Слуга Божы Ян Павел II.

З вялікім энтузіязмам успрынялі вернікі гамілію, якую казаў кардынал Генрык Гульбіновіч. З сьлязьмі на вачах многія вернікі слухалі эмацыйнае слова свайго земляка архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, намінацыяй якога ў свой час распачалося адраджэньне Каталіцкай Царквы ў Беларусі і адраджэньне культу Маці Божай Кангрэгацкай.

Нунцый Апостальскай Сталіцы архібіскуп Марцін Відавіч запэўніў усіх прысутных у любові і духоўнай лучнасьці Сьвятога Айца Бенядыкта XVI, выяўленьнем чаго зьяўляецца абвяшчэньне юбілейнага году ў гарадзенскай катэдральнай базыліцы і ўстанаўленьне сьпецыяльнага адпусту.

# НОВЫ ЖЫХАР НЕБА

**23 жніўня 2005 году больш за 10 тысячаў вернікаў розных хрысьціянскіх канфесіяў прысутнічалі на пахаваньні заснавальніка экуменічнай Супольнасьці Тэзэ 90-гадовага брата Ражэ, які 16 жніўня быў раптоўна забіты псіхічна хворай жанчынай з Румыніі. Трагедыя адбылася ў 20.45 у храме Паяднаньня ў мясцовасьці Тэзэ, калі на вячэрняй малітве разам з братам Ражэ сабралася больш за 2,5 тысячаў маладых пілігрымаў з многіх краінаў сьвету.**

Брат Ражэ Шуц нарадзіўся 12 траўня 1915 году ў швейцарскім Правансе. Яго бацька быў пастарам у рэфармацкай царкве, маці паходзіла з Францыі. У 1937-1940 гг. ён вывучаў тэалогію ў Лазане, а потым — у Страсбургу. 3 жніўня 1940 году ён пасяліўся ў вёсцы Тэзэ, за некалькі кіламетраў ад дэмаркацыйнай лініі, якая ў час вайны падзяляла Францыю, тут ён перажыў ваенны перыяд. У час ваеннага ліхалецьця ён даваў прытулак многім людзям, найперш габрэям, якім гітлераўцы пагражалі сьмерцю.

Паступова да брата Ражэ далучаліся іншыя браты. Сярод першых братоў былі як немцы, так і французы, якія цяпер складаюць найбольшую групу ў Тэзэ. Першыя браты былі пратэстантамі. Потым да іх далучыліся каталікі. Супольнасьць, якая налічвае 100 братоў 25 нацыянальнасьцяў, да сёньняшняга дня захоўвае экуменічны характар.

Брат Ражэ прысьвяціў сваё жыцьцё пошуку шляхоў для пераадоленьня падзелу паміж хрысьціянамі і пераадоленьню канфліктаў у вялікай чалавечай сям'і. Тэзэ стала месцам, куды прыязджаюць маліцца, вывучаць вытокі веры і сумесна пракладваюць шлях да прымірэньня і даверу паміж людзьмі сотні тысячаў маладых хрысьціянаў Еўропы і іншых кантынентаў. Таксама Супольнасьць Тэзэ штогод напярэдадні Новага году арганізуе малітоўныя спатканьні моладзі, г.зв. Форумы Маладых у розных гарадах Еўропы. На Еўрапейскім спатканьні моладзі ў сьнежні 1991 году ў Празе ўпершыню ўдзельнічала група маладых грэка-каталікоў з Беларусі. Ад гэтага году Брат Ражэ атрымліваў інфармацыю пра жыцьцё хрысьціянаў у Беларусі і часта маліўся за іх.

У дзень пахаваньня Брата Ражэ ў Тэзэ, у храме Паяднаньня, сьвятую Імшу ўзначаліў кардынал Вальтэр Каспэр, Старшыня Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў, яму саслужылі тры браты — сьвятары Супольнасьці Тэзэ. Разам з маладымі людзьмі з усяго сьвету памяць брата Ражэ ўшанавалі многія еўрапейскія палітыкі, прадстаўнікі Цэркваў і жыхары рэгіёну.

Пачынаючы пахавальную цырымонію, новы прыёр Супольнасьці Тэзэ Брат Алаіз прывітаў прадстаўнікоў праваслаўных, каталіцкіх, пратэстанцкіх і англіканскіх Цэркваў, а таксама прадстаўнікоў улады некалькіх краінаў.

Затым кардынал Вальтэр Каспэр прачытаў ліст, дасланы ў Тэзэ Дзяржсакратаром Апостальскай Сталіцы кардыналам Анджэла Садана. У ім ад імя Папы Бенядыкта XVI Дзяржсакратар адзначыў, што Брат Ражэ вельмі любіў Царкву і шмат пакаленьняў хрысьціянаў абавязаны Супольнасьці Тэзэ досьведам веры і спатканьня з Богам. «Прашу Бога, каб справа, пачатая братам Ражэ, працягвалася і далей,— напісаў кард. Анджэла Садана. У лісьце Дзяржсакратара Апостальскай Сталіцы таксама паведамляецца, што Сьвяты Айцец, глыбока ўзрушаны гэтай трагічнай весткаю і «ўзносіць да Бога палымяныя малітвы аб супакоі душы гэтага нястомнага сьведкі Евангельля супакою і паяднаньня».

Кардынал Вальтэр Каспэр, узгадваючы заслугі Брата Ражэ, назваў яго адным з самых вялікіх айцоў і духоўных лідараў нашых часоў, які «цярпеў з прычыны падзелу хрысьціянаў». Таксама Старшыня Папскай Рады па справах Еднасьці хрысьціянаў падкрэсьліў: «Ён хацеў жыць верай непадзеленай Царквы, без расколу, у вялікім братэрстве. Ён верыў перадусім у экуменізм, які вынікае з сьвятасьці, той сьвятасьці, якая перамяняе глыбіні душы і якая адзіная вядзе да поўнай сулучнасьці. Сваёй прысутнасьцю, словам і прыкладам Брат Ражэ выпраменьваў любоў і надзею па-над межамі і падзеламі гэтага сьвету»,— сказаў кардынал.

Падчас пахавальнай цырымоніі гучалі традыцыйныя сьпевы Тэзэ, на некалькіх мовах былі прачытаныя словы Брата Ражэ: «Уваскрослы Ісусе, сёньня, заўтра і заўсёды Твой Дух Сьвяты адкрывае дарогу. Таксама й мы крочым ёю, бо на пачатку ўсяго ёсьць давер сэрца». Потым, як гэта часта бывае ў Тэзэ, наступілі пяць хвілінаў цішыні — час малітвы й сузіраньня.

У часе цырымоніі разьвітаньня пахавальныя малітвы па праваслаўным абрадзе прачыталі прадстаўнікі Праваслаўных Цэркваў Румыніі і Расеі.



• Еўрапейскае спатканьне моладзі 1995 г. у Уроцлаве (Польшча). Брат Ражэ, як заўсёды, разам з дзецьмі. (Фота з архіву Рэдакцыі).

## Водгукі на сьмерць Брата Ражэ

Каментуючы трагічную сьмерць Брата Ражэ, Прымас Польшчы кардынал Юзаф Глемп, які шмат разоў сустракаўся з ім, у тым ліку і ў Тэзэ, адзначыў, што «ён быў чалавекам нязвыклай пакоры і адзначаўся пабожнасьцю марыйнай ды еўхарыстычнай», «меў вялікі дар яднаньня». Як пратэстант, Брат Ражэ абапіраў сваю духоўнасьць на Бібліі, але ён жыў таксама сакрамантамі Каталіцкай Царквы, асабліва Еўхарыстыяй. Яшчэ Папа Ян XXIII, даведаўшыся, што Брат Ражэ глыбока верыць у прысутнасьць Хрыста ў Еўхарыстыі, дазволіў яму прымаць сьв. Прычасьце, нягледзячы на тое, што ён ня быў каталікам. Як падкрэсьліў кардынал Ю.Глемп, «Еўхарыстыя была для яго шляхам да паяднаньня з Хрыстом». Ён таксама адзначыў, што, магчыма, Брат Ражэ такім чынам указаў шлях да паяднаньня хрысьціянаў у будучым.

«Ведаем, што гэтая незразумелая сьмерць закранула ня толькі Вас, але таксама і ўсіх, якія яго ведалі і любілі,— напісаў праваслаўны Патрыярх Канстантынопаля Баўтрамей І.— Заўсёды будзем памятаць пра заслугі Брата Ражэ для Экуменічнага Руху і пра яго любоў да маладых людзей усяго сьвету». Падобныя ж словы глыбокага спачуваньня выказаў ад імя Расейскай Праваслаўнай Царквы Патрыярх Аляксей ІІ, які падкрэсьліў, што Брат Ражэ быў «чалавекам малітвы, палымяным працаўніком на ніве Хрыстовай», а «яго зямная пілігрымка была прыкладам хрысьціянскага жыцьця, прысьвячанага служэньню Госпаду». Аляксей ІІ таксама запэўніў братоў Супольнасьці Тэзэ аб малітвах «за супакой душы брата Ражэ, новага жыхара Неба».

Выразы спачуваньня і духовай салідарнасьці з Супольнасьцю Тэзэ на адрас новага прыёра Брата Алаіза паслаў таксама і Апостальскі Візітатар для грэка-каталікоў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек).

*Інфармацыя падрыхтавана паводле паведамленьняў Прэс-службы Галавы УГКЦ, KAI Catholic.by, AGNUZ і іншых прэсавых крыніцаў.*

## Урачыстасьці ў Закарпацьці

**На запрашэньне Апостальскага Адміністратара Мукачыўскай грэка-каталіцкай япархіі Ўладыкі Мілана Шашыка Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек 27-28 чэрвеня 2005 году прыняў удзел у сьвяткаваньнях у г.Ужгарад, дзе адбываўся Еўхарыстычны Кангрэс япархіі і літургічны ўспамін Перанясеньня мошчаў сьвятамучаніка Тэадора (Ромжы).**

Урачыстасьці ў Ужгарадзе ўзначальваў Першаярарх УГКЦ Яго Блаславенства Ўладыка Любамір (Гузар). Удзельнічалі таксама грэка-каталіцкія ярархі і сьвятары з Украіны, Славакіі, Чэхіі, Румыніі, Баўгарыі, Італіі, а таксама ардынарый лацінскай Мукачыўскай дыяцэзіі Антал Майнак (з сваім сакратаром, з паходжаньня беларусам з-пад Гомля).

На сьвяткаваньне прыбылі пілігрымы ня толькі з Украіны, але таксама з Румыніі, Вугоршчыны і Славакіі. Двухдзённае сьвяткаваньне закончылася еўхарстычнай працэсіяй ад грэка-каталіцкай семінарыі да катэдральнага сабору, дзе захоўваюцца мошчы замучанага ў час камуністычнай акупацыі Закарпацьця грэка-каталіцкага Мукачыўскага біскупа Блаславёнага Тэадора (Ромжы).

# Аддадзены заступнік УСХОДНЯЙ ЦАРКВЫ

***9 жніўня 2005 году пасьля працяглай хваробы спачыў у Богу Ёзаф Марыя дэ Вольф — чалавек, які прысьвяціў сябе служэньню сьвятой справе еднасьці Царквы і праслаўленьню Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.***



• *Берасьце, 30.11.1996. Сп. Ёзаф Марыя дэ Вольф (справа) вітае ўдзельнікаў урачыстасьцяў 400-годдзя Берасьцейскай царкоўнай Уніі.*

Шчырая хрысьціянская вера асьвячала шлях ягонага жыцьця, кожную хвіліну якога ён прысьвяціў місійнаму служэньню дзеля набліжэньня царкоўнай еднасьці праз пашырэньне культу шанаваньня Багародзіцы. Ён верыў, што давяраючы свае сэрцы Марыі, Маці Божай, праз малітву на ружанцы, вернікі ўсходняй і заходняй традыцыі змогуць наблізіць час, калі зьнікне ўсякая варожасьць паміж імі і будуць пераадолены ўсе падзелы. Заслугі гэтага фламандзкага каталіка з Бельгіі вядомыя многім, асабліва ў краінах Усходняй Эўропы, прычым яшчэ з часоў, калі Грэка-Каталіцкая Царква знаходзілася ў падпольлі.

З 1961 па 1966 год Ёзаф Марыя дэ Вольф працаваў сакратаром дабрачыннай арганізацыі "Kirche in Not" ("Царква ў патрэбе") і ў гэты перыяд некалькі разоў наведаў былы СССР, у тым ліку й Менск (1961 г.). Падчас гэтых паездак ён даведаўся пра падпольнае жыцьцё ўкраінскіх грэка-каталікоў. Сп. дэ Вольф быў моцна ўражаны тым фактам, што адна Царква дапамагае перасьледаваць другую. Тады ён вырашыў для сябе, што мусіць данесьці сьвету праўду пра грэка-каталікоў і павінен прысьвяціць сябе служэньню гэтай перасьледаванай Царкве.

Ёзаф Марыя дэ Вольф грунтоўна вывучыў гісторыю Грэка-Каталіцкай Царквы ня толькі ў часы камуністычнага перасьледу, але пачынаючы яшчэ ад Фларэнцкай і Берасьцейскай царкоўных уніяў. Ён выдатна ведаў таксама й пра тыя пакуты, якія выпалі на долю ўніятаў у часы царыцы Кацярыны, падчас гвалтоўнага зьнішчэньня Уніі ў 1839 годзе і ў пазьнейшыя часы.

Створаная ім у 1983 годзе ў Кёльне (Нямеччына) місійная арганізацыя — Згуртаваньне сьв. Кірылы і Мятода — пастаянна й пасьлядоўна аказвала маральную і матэрыяльную падтрымку грэка-каталіцкім Супольнасьцям у краінах былога камуністычнага лагеру. Ён як ніхто дбаў, каб Паўсюдная Царква дыхала "абодвума лёгкімі". Згуртаваньне сьв. Кірылы і Мятода, якое ён узначальваў, зьбірала ахвяраваньні, рассылала лісты, выдавала бюлетэні, дзякуючы якім заходні сьвету мог даведацца пра традыцыі, жыцьцё і праблемы ўсходніх каталікоў. Гэтае місійнае аб'яднаньне фінансавала выданьне добра вядомых нашым вернікам знакавых кніг, прысьвечаных тэме ўсходняга каталіцтва, такіх, напрыклад, як "Католичество и священное предание Востока" князя Е.Валконскага, "Леонид Фёдоров" дыякана Васіля ЧСВ (фон Бурмана), "Католический катехизис" а. С.Тышкевіча. Дзякуючы гэтым кнігам, якія распаўсюджваліся ў Расеі, Украіне, Беларусі і іншых краінах былога СССР, многія людзі прыйшлі да Бога, адкрылі для сябе сьвет усходняга каталіцтва.

З фінансавай дапамогі сп. дэ Вольфа будаваліся і аднаўляліся грэка-каталіцкія храмы і манастыры. Так, дзякуючы менавіта яго дапамозе, быў узьведзены адзін з духоўных цэнтраў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы — манастыр манахаў-студытаў у Полацку.

У 1996 годзе, калі сьвяткаваліся 400-ыя ўгодкі падпісаньня Берасьцейскай царкоўнай Уніі, Ёзаф Марыя дэ Вольф выказаў пажаданьне далучыцца да сьвяткаваньня гэтага юбілею, каб падтрымаць тым самым тады яшчэ зусім маладую і нешматлікую грэка-каталіцкую супольнасьць Беларусі. Нягледзячы на розныя перашкоды і непрыхільнае стаўленьне ўладаў да арганізаваных у Берасьці ўрачыстасьцяў, ён усё ж прыехаў з вялікай групай грэка-каталіцкіх пілігрымаў з Украіны і Расеі ў наш горад, дзе нарадзілася думка пра неабходнасьць аднаўленьня царкоўнай Еднасьці. Хіба ж мог зрабіць інакш чалавек, які прысьвяціў сваё служэньне справе еднасьці Царквы?

Нястомнаю працаю сп. дэ Вольфа стваралiся брацтвы сьв. Ружанца ў краінах Усходняй Эўропы, бо ён шчыра верыў у моц заступніцкай малітвы Маці Божай — Маці Ісуса і ўсіх хрысьціянаў, якая абавязкова прывядзе нас да еднасьці. І таму, пачынаючы з 1989 году, сп. дэ Вольф стаў ініцыятарам і арганізатарам малітоўных пілігрымак у гонар Найсьвятой Багародзіцы. Гэтыя Міжнародныя пілігрымкі Ружанца "за еднасьць Царквы" штогод адбываюцца ў розных грэка-каталіцкіх марыйных санктуарыях: у Славакіі, на Галічыне, Букавіне, у Закарпацьці. Заўсёды яны зьбіраюць вялікую колькасьць вернікаў з Украіны, Беларусі, Расеі, Славакіі, Румыніі, Баўгарыі, Македоніі, Сербіі, Харватыі, Аўстрыі, Чэхіі, Польшчы, Нямеччыны і інш. краінаў. Дзякуючы падтрымцы сп. дэ Вольфа ў гэтых марыйных пілігрымках шмат гадоў запар маглі ўдзельнічаць беларускія вернікі ня толькі з тых мясцовасьцяў, дзе ёсьць грэка-каталіцкія парафіі, але таксама і з тых гарадоў краіны, дзе яшчэ няма нашых парафіяў. Многія ўдзельнікі, як сьвятары так і вернікі, дагэтуль ня могуць забыць вялікі малітоўны гурт людзей, ад гарызонту да гарызонту, на полі ў старажытным горадзе Крылас каля Галіча, а таксама і на стадыёне ў Бучачы — тады сэрца кожнага ўдзельніка замірала ад сьвядомасьці адзінства Сусьветнай Царквы і напаўнялася радаснай малітвай да Найсьвятое Уладаркі Багародзіцы.

Ёзаф Марыя дэ Вольф ня раз прызнаваўся, што адна з ягоных мараў была арганізаваць такую міжнародную пілігрымку Ружанца "за еднасьць Царквы" на зямлі нашае роднае Беларусі. На жаль, яго мары ня дадзена было зьдзейсьніцца пры ягоным жыцьці. Але ён вельмі цешыўся з таго факту, што ў праграме кожнай пілігрымкі, паводле добрай традыцыі, якая склалася за апошнія гады, абавязкова гучаў Акафіст да Багародзіцы па-беларуску.

Ягонае разуменьне экуменізму, праблемаў хрысьціянскай еднасьці ніколі не дазваляла яму пагадзіцца з думкай, якой прытрымліваліся некаторыя нават каталіцкія багасловы, што праблему падзелу ў Царкве можна вырашаць за кошт усходніх каталікоў, маўляў, яны — перашкода на шляху да еднасьці. У той жа час Ёзаф Марыя дэ Вольф не стамляўся паўтараць: "Хто ўбачыць, якія пакуты цярпяць людзі з-за разьяднаньня, той лепш зразумее неабходнасьць малітвы за еднасьць. Ісус Хрыстос казаў: "Ойча сьвяты! Захавай іх у імя Тваё, каб яны былі адно, як і Мы" (Ян 17). Калі ідзе гаворка пра разьяднаньне, майце на ўвазе ня Рым і Канстанцінопаль ці Маскву й Кіеў, але Хрыста. У гэтай малітве Хрыста адна рэч ёсьць для мяне асабліва значнаю: "Я ў іх, і Ты ўва Мне; каб былі злучаны ў адно і няхай пазнае сьвет, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх, як палюбіў Мяне".⇨

> ***"Хто ўбачыць, якія пакуты церпяць людзі з-за разьяднаньня, той лепш зразумее неабходнасьць малітвы за еднасьць. [...] Толькі зьяднаныя мы можам зразумець місію Хрыста".***
>
> *Ёзаф Марыя дэ ВОЛЬФ (Часопіс «Унія», № 4, 1995).*

# «Гэта не ідэалогіі збаўляюць сьвет...»

Словы Сьвятога Айца Бенядыкта XVI да моладзі на XX Сусьветным Дні Моладзі ў Кёльне

Прыехаўшы цяпер у Кёльн, каб удзельнічаць разам з вамі ў XX Сусьветным Дні Моладзі, спантанна, з узрушанасьцю і ўдзячнасьцю ўзгадваю Слугу Божага, так моцна любімага намі Яна Паўла II, які меў гэтую сьветлую ідэю, каб сабраць разам моладзь усяго сьвету й разам праслаўляць Хрыста, адзінага Адкупіцеля роду чалавечага. Дзякуючы гэтаму глыбокаму дыялогу, які разьвіваўся паміж Папам і моладдзю напрацягу больш як дваццаць гадоў, шмат хто з яе змог паглыбіць сваю веру і ўмацаваць еднасьць у сулучнасьці, даючы падхапіць сябе Добрай Навіне збаўленьня ў Ісусе Хрысьце і абвяшчаць яе ў розных частках сьвету. Гэты вялікі Папа змог зразумець выклікі, якія стаяць перад сучаснай моладдзю, і, пацьвярджаючы сваю надзею на іх, не пераставаў заклікаць іх, каб былі адважнымі вестунамі Евангельля і нястомнымі будаўнікамі цывілізацыі праўды, любові і супакою. [...]

Дарагая моладзь! Шчасьце, якога вы шукаеце, шчасьце, якое маеце права адчуць, мае імя і аблічча: гэта Ісус з Назарэту, схаваны ў Эўхарыстыі. Толькі Ён дае поўню жыцьцю чалавецтва! Разам з Марыяю кажэце «так» гэтаму Богу, які хоча ахвяраваць Сябе вам. Паўтараю вам тое, што я сказаў на пачатку майго пантыфікату: «Хто пусьціць Хрыста ў сваё жыцьцё, нічога ня страціць, нічога — абсалютна нічога з таго, што робіць чалавека свабодным, прыгожым і вялікім. Нічога! І толькі ў гэтым сяброўстве на самой справе шырока адчыняюцца дзьверы жыцьця. Толькі ў гэтым сяброўстве адчуваем тое, што на самой справе добрае і што нас вызваляе» *(Гамілія з інаўгурацыі пантыфікату, 24 красавіка 2005).* Будзьце абсалютна ўпэўненыя: Хрыстос не забірае нічога з таго, што ў вас цудоўнае і вялікае, але вядзе ўсё да дасканаласьці на славу Божую, для шчасьця людзей, збаўленьня сьвету.

*(З вітальнай прамовы Бенядыкта XVI да пілігрымаў, 18.08.05)*

Мудрацы, што паходзілі з Усходу,— гэта толькі першыя ў доўгім шэрагу мужчынаў і жанчынаў, якія ў сваім жыцьці ўвесь час шукалі позіркам Божую зорку, якія шукалі таго Бога, які блізкі нам, чалавечым істотам, і які паказвае нам дарогу. Гэта вялікае мноства сьвятых — вядомых і невядомых — праз якіх Госпад напрацягу гісторыі адкрываў перад намі Евангельле і перагортваў яго старонкі; Ён робіць гэта й надалей. У іх жыцьці, як у вялікай ілюстраванай кнізе, адкрываецца багацьце Евангельля. Яны — гэта сьветлы сьлед Бога, які Ён Сам пакінуў і пакідае далей. [...]



Блаславёныя і сьвятыя былі асобамі, якія не шукалі ўпарта ўласнага шчасьця, але папросту цалкам хацелі прынесьці сябе ў ахвяру Богу, бо дасягнула іх сьвятло Хрыста. Такім чынам яны паказваюць нам дарогу, як быць шчасьлівымі, паказваюць, як стаць асобамі па-сапраўднаму чалавечымі. [...]

Як мы ўжо сказалі, сьвятыя былі сапраўднымі рэфарматарамі. Я хацеў бы сказаць гэта цяпер яшчэ больш радыкальна: толькі ад сьвятых, толькі ад Бога паходзіць сапраўдная рэвалюцыя, рашучая перамена сьвету. [...]

Гэта не ідэалогіі збаўляюць сьвет, але толькі зварот да жывога Бога, нашага Стваральніка, гаранта нашай свабоды, гаранта таго, што сапраўды добрае і праўдзівае. Сапраўдная рэвалюцыя — толькі ў звароце да Бога, Які зьяўляецца мераю таго, што справядлівае, і разам з тым — вечнай любоўю. А што можа нас ратаваць, калі не любоў? [...]

Можна крытыкаваць Царкву шмат за што. Мы ведаем пра гэта, і сам Госпад сказаў нам пра гэта: яна ёсьць сеткаю, у якую трапляюць добрыя і дрэнныя рыбы, полем пшаніцы і кукалю. Папа Ян Павел II, які ў шматлікіх сьвятых паказаў нам сапраўдны твар Царквы, нават прасіў прабачэньня за тое, што напрацягу гісторыі, праз учынкі й словы людзей Царквы, здарылася дрэннае. Такім чынам ён паказаў і нам нашае сапраўднае аблічча ды заклікаў нас, каб мы з усімі нашымі недасканаласьцямі й сла-басьцямі далучыліся да паходу сьвятых, які распачалі Мудрацы з Усходу.

*(З прамовы Бенядыкта XVI да моладзі падчас начнога чуваньня 20.08.05)*

Дарагія сябры! Часамі, на пачатку, можа падацца вельмі нязручным абавязак планаваць на нядзелю свой удзел у літургіі. Але, калі вы паруціцеся, то пераканаецеся, што ўласна гэта і ёсьць сапраўдны цэнтр вольнага часу. Ня дайцеся адвесьці сябе ад ўдзелу ў нядзельнай Эўхарыстыі і дапамажыце таксама іншым ў яе адкрыцьці. Канечне, дзеля таго, каб яна прыносіла радасьць, якой мы патрабуем, мусім навучыцца з кожным разам усё больш разумець яе ва ўсёй яе глыбіні, мусім навучыцца любіць яе. Абавяжма сябе да гэтага, бо варта! Адкрыем глыбіню багацьця літургіі Царквы і яе сапраўдную веліч: ня мы ладзім сьвята для сябе, гэта Сам жывы Бог рыхтуе для нас сьвята. Разам з любоўю да Эўхарыстыі вы адкрыеце таксама й таямніцу Паяднаньня, у якой міласэрная дабрыня Бога дазваляе кожны раз нанова пачынаць нашае жыцьцё. [...]

На шырокіх прасторах сьвету сёньня заўважаецца дзіўнае забыцьцё пра Бога. Здаецца людзям, што ўсё адбываецца аднолькава таксама й без Яго. Але адначасова зьяўляецца таксама пачуцьцё расчараваньня, незадаволенасьці з усяго і з усіх. Чалавеку хочацца крычаць: нельга так жыць! І сапраўды, нельга. Гэткім чынам поруч з забыцьцём пра Бога зьяўляецца і пэўны рэлігійны бум. Не хачу дыскрэдытаваць усяго таго, што хаваецца пад гэтым кантэкстам. Гэта можа быць таксама шчырая радасьць адкрыцьця. Але, кажучы з пэўным перабольшваньнем, нярэдка рэлігія становіцца нібы прадуктам спажываньня. Выбіраецца тое, што падабаецца, а ў некаторых атрымліваецца нават мець з гэтага прыбытак. Аднак рэлігія, якая шукаецца метадам «зрабі сабе сам», у рэшце рэшт нам не дапамагае. Яна зручная, але ў хвіліну крызісу пакідае нас саміх сабе. Дапамажыце людзям адкрыць сапраўдную Зорку, якая паказвае дарогу: Ісуса Хрыста! Давайце самі будзем старацца пазнаваць Яго ўсё лепей, каб маглі ў пераканаўчы спосаб весьці да Яго таксама іншых. [...]

Калі мы будзем думаць і жыць у сулучнасьці з Хрыстом, тады адкрыюцца нам вочы. Тады мы не пагодзімся больш выжываць, дбаючы адно толькі пра саміх сябе, але ўбачым, дзе і як мы патрэбныя. Калі будзем так глядзець і рабіць, хутка пераканаемся, што значна лепш быць карысным і патрэбным іншым, чым клапаціцца выключна аб прапанаваных нам выгодах.

Ведаю, што вы, моладзь, марыце пра вялікія справы, што прагнеце працаваць дзеля таго, каб сьвет быў лепшым. Пакажыце гэта людзям, пакажыце гэта сьвету, які чакае на ўласна такое сьведчаньне вучняў Ісуса Хрыста, і які найперш, дзякуючы вашай любові, зможа адкрыць зорку, за якою мы, як веруючыя, ідзем.

*(З гамілii на поле Марыянфэльд 21.08.05)*

---

⇨Толькі зьяднаныя мы можам зразумець місію Хрыста". Ён верыў, што гэты сьвет прыйдзе да Хрыста толькі тады, калі пабачыць еднасьць хрысьціянаў і еднасьць Царквы, а шлях да гэтага ляжыць найперш праз руплівую малітву.

Яшчэ задоўга да свайго адыходу сп. дэ Вольф маліўся, каб ведаць час сваёй сьмерці, і за некалькі месяцаў да яе ён ужо прадчуваў гэты момант (пра гэта ён неаднойчы казаў у прыватных размовах). Згасла сьвечка, што сьвяціла сярод начной цемры, а нябёсы асьвяціліся зьзяньнем новай зоркі.

У блаславёным сьне яго, дай, Госпадзе, знайсьці вечны супакой душы спачылага слугі Твайго Ёзафа Марыі, і ўчыні яму вечную памяць.

**Семінарыст Алесь АЎДЗЯЮК**
**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# Быць хрысьціянінам не пры сьвечках

*«Для мяне жыцьцё — Хрыстос,*
*і сьмерць — набытак»* (Флп 1, 21)

***Вось ужо 15 гадоў мінула ад таго трагічнага дня, калі быў забіты выдатны сьвятар-прапаведнік, багаслоў і хрысьціянскі пісьменьнік айцец Аляксандр Мень (1935-1990), якога праваслаўны ўладыка Міхаіл Мудзьюгін назваў прарокам «новага часу» і прадвесьнікам новай евангелізацыі ўсёй Царквы. 9 верасьня 2005 году, у дзень мучаніцкай сьмерці айца Аляксандра Меня, у грэка-каталіцкай парафіі сьвятых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя г.Берасьця была адслужана сьвятая Літургія за супакой у памяць пра сапраўднага апостала й мучаніка нашага часу.***

Гэты выдатны змагар за Хрыстовую справу, які меў выключную эрудыцыю, энцыклапедычныя веды і вялікі прапаведніцкі талент, працягвае жыць як у сваіх кнігах, што друкуюцца і праваслаўнымі, і каталікамі, і нават пратэстантамі, так і ў памяці людзей — тых, каму пашчасьціла сустракацца з ім, слухаць яго лекцыі, казаньні, быць яго духоўнымі вучнямі і тых, хто пазнаёміўся з ім праз шматлікія яго творы.

У творчай спадчыне а. Аляксандра Меня варта асабліва адзначыць першую яго кнігу — «Сын чалавечы», якую ён прысьвяціў Богачалавечай асобе Ісуса Хрыста. Менавіта Хрыстос быў у цэнтры яго душпастырскага служэньня й творчасьці. Вялікае мноства людзей, што былі выхаваны ў атэістычным духу, пасьля таго як прачыталі «Сын Чалавечы» айца А.Меня, упершыню пачалі сур'ёзна задумвацца пра Бога, пра Царкву, пра духоўнае жыцьцё, пра тое, дзеля чаго яны жывуць.

Аднак у савецкія часы а. Аляксандру Меню не давалі друкавацца. Так, з 1966 па 1987 год у краіне, дзе ён жыў, не было надрукавана ніводнага ягонага радка! І ён быў вымушаны таемна перадаваць свае творы за мяжу, каб надрукаваць іх там. Шмат твораў А.Меня выйшла ў брусэльскім каталіцкім выдавецтве «Жизнь з Богом», прычым большасьць з іх друкавалася тады пад псеўданімамі: Эмануіл Сьвятлоў, Андрэй Багалюбаў ды інш.

КГБ увесь час трымаў а. Аляксандра Меня пад пільным наглядам, час ад часу ў яго на кватэры адбываліся вобыскі, і таму над ім увесь час вісела пагроза арышту. Прычынай гэтага была актыўная місіянерская дзейнасьць сьвятара ў краіне, якая афіцыйнай ідэалогіяй абвясьціла бязбожніцтва. Часам у КГБ на айца А.Меня даносілі нават самыя сьвятары... З падазрэньнем ставіліся да яго служэньня і дзейнасьці і ў Маскоўскай Патрыярхіі. Вось жа і пастырскае служэньне айца Аляксандра праходзіла зусім не ў сталіцы і не ў вялікім горадзе: на працягу 20 гадоў, да моманту сваёй трагічнай сьмерці, ён служыў у звычайным падмаскоўным сяле Новая Дзярэўня. Ня раз за гэтыя гады ён атрымліваў ананімныя лісты і тэлефанаваньні з рознымі пагрозамі, таму сьмерці ён не баяўся і быў да яе гатовы. Ён верыў у пасхальную перамогу, пра якую якраз гаварыў за некалькі гадзінаў да свайго забойства сябру: «Яна пачалася ў ноч Уваскрасеньня, і яна працягваецца, пакуль стаіць сьвет».

Цікавы факт з жыцьця Аляксандра Меня: калі яму было 12 гадоў, ён напісаў п'есу пра сьвятога Францішка Асізскага. Наогул, трэба адзначыць, што яшчэ з падлеткавага ўзросту ён быў захоплены ідэямі Уладзіміра Салаўёва пра еднасьць хрысьціянаў. Як узгадвае дэкан Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы а. Віктар Данілаў, які быў асабіста знаёмы з айцом А.Менем, яго знаёмства з а. Аляксандрам адбылося менавіта на глебе цікавасьці да каталіцтва. Праваслаўны сьвятар Дз.Дудко, калі даваў Віктару Данілаву пісьмовую рэкамендацыю да айца А.Меня, сказаў пра яго, што ў душы ён — каталік. І гэта ня раз ставілася ў дакор Аляксандру Меню іншымі праваслаўнымі сьвятарамі. У сваіх успамінах «Мой шлях да Бога і да Каталіцкай Царквы» айцец В.Данілаў нават сьцьвярджае, што падчас адной з сустрэчаў сам-насам а. Аляксандар Мень «прызнаўся, што ён тайны католік і мае ліст ад кіраўніцтва Каталіцкай Царквы на працяг працы праваслаўным сьвятаром». І сапраўды, неаспрэчным фактам зьяўляецца адкрытасьць а. Аляксандра Меня на дыялог і супрацоўніцтва з каталікамі, як з сьвецкімі, так і з сьвятарамі ды манахамі. Плёнам гэтага супрацоўніцтва найперш сталі яго творы, надрукаваныя на Захадзе, якія потым рознымі шляхамі дасылаліся вернікам у СССР.



Экуменічныя погляды а. Аляксандра Меня сфармаваліся да пачатку 1960-ых гг. і былі вынікам доўгіх разважаньняў ды пошукаў. Асабліва моцна паўплывала на яго асоба Папы Яна XXIII.

Айцец В.Данілаў таксама ўзгадвае: «Я быў сьведкам таго, як ён неаднойчы раіў сваім духоўным дзецям прымаць прычасьце ў каталіцкіх храмах, маліцца там. З гэтага вынікае, што ён прапаведаваў актыўныя экуменічныя стасункі праваслаўных з каталікамі». Некаторыя духоўныя дзеці айца А.Меня нават вырашылі прыняць каталіцтва. Экуменічныя памкненьні а. Аляксандра Меня праявіліся таксама і ў тым, што яшчэ ў 1970-ыя гады ён зацікавіўся духоўным вопытам Супольнасьці Тэзэ ў Францыі і яе працай з моладдзю. Тады ж духоўныя дзеці а. Аляксандра навязалі сталы кантакт з гэтай экуменічнай супольнасьцю. Што да падзелу Цэркваў, а. Аляксандар Мень гаварыў наступнае: «Я прыйшоў да высновы, што Царква па сутнасьці адзіна, і што падзялілі хрысьціянаў галоўным чынам іх абмежаванасьць, вузкасьць і грахі». Ён быў перакананы, што ўсе хрысьціяне павінны перажываць разьдзяленьне як агульны грэх і парушэньне волі Хрыстовай, а пераадолець яго можна толькі ў духу шчырай брацкай любові, без якой сапраўдны вернік ня можа споўніць свайго хрысьціянскага пакліканьня.

За гэтыя 15 гадоў, што мінулі пасьля трагічнай сьмерці а. Аляксандра Меня (дарэчы, прычына забойства і сам забойца так і ня знойдзены), шмат ужо напісана пра яго, шмат выдадзена яго кніг, шмат малітваў падзякі за яго і ягонае служэньне было ўзьнесена да Бога. Каб ажывіць нашую памяць пра гэтага выдатнага мысьляра, спагляньма яшчэ раз на некаторыя ягоныя думкі, задумаймася над гэтым:

*«Я дрэнна разумею рэзкі падзел на «сьвецкае» і «рэлігійнае». Для мяне гэтыя тэрміны ў вышэйшай ступені ўмоўныя. Хоць у дзяцінстве мне патлумачылі, што ёсьць «асаблівыя» прадметы і тэмы, але гэта хутчэй вынікала з умоваў жыцьця сярод чужых па духу людзей. Паступова гэты падзел амаль страціў сэнс, паколькі ўсё стала на свой лад «асаблівым». Любы бок жыцьця, любая праблема й перажываньне аказаліся непасрэдна зьвязаныя з Вышэйшым.*

*Жыць так, нібыта рэлігія застаецца нейкім ізаляваным сектарам, стала немагчыма. Таму я часта кажу, што для мяне няма, напрыклад, «сьвецкай літаратуры». Усялякая добрая літаратура — мастацкая, філасофская, навуковая — якая апісвае прыроду, грамадзтва, пазнаньне й чалавечыя пачуцьці, апавядае нам аб адным, аб «адзіным на патрэбу». І ўвогуле, няма жыцьця «самога па сабе», якое магло б быць незалежным ад веры. Ад маладых гадоў усё для мяне круцілася вакол галоўнага Цэнтру. Адсякаць нешта (акрамя граху) здаецца мне няўдзячнасьцю адносна Бога, неапраўданым абмежаваньнем, абядненьнем хрысьціянства, якое паклікана пранізваць жыцьцё і дараваць «жыцьцё ўдосталь». Мне заўсёды хацелася быць хрысьціянінам не «пры сьвечках», але пры яркім сьвятле сонца».*

**Семінарыст Алесь АЎДЗЯЮК**
**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# КАНА ў Жодзіна

**З 17 па 24 ліпеня 2005 году зкуменічнае Брацтва «Кана» Супольнасьці «Chemin Neuf» правяло сваю чарговую сесію для сужонстваў у г.Жодзіна, у душпастырскім цэнтры рыма-каталіцкай парафіі Маці Божай Фацімскай.**

*Что было, то было...*
*— А было?*
*Было.*
*Наверняка.*
*И. СНЕГОВА*

17 ліпеня выправіліся ў Жодзіна 18 чалавек, хто блізка, хто здалёк, з большага — сужэнствамі.

Гэтыя людзі самі некалі перажылі сесію Каны, а зараз вызваліся, каб прысьвяціць тыдзень іншым сем'ям, іншым сужэнствам, знаёмым і незнаёмым. Кожны прагнуў падзяліцца атрыманымі ў свой час дарамі, набыткамі сваёй душы, нават ня ведаючы — хто адгукнецца на запрашэньне.

Сустрэў нас жодзінскі касьцёл крыжам, побач з каторым застаўся камель сьпілаванага нядобразычліўцамі папярэдняга крыжа, і сьціплым, але ўзрушаным аповедам пробашча, айца Марка, як мацаваўся праз ружанцову малітву ў цяжкія моманты будаўніцтва касьцёла.

А госьці прыехалі, з Ліды, Менску, Барысава і самога Жодзіна, з уласнымі праблемамі і дасягненьнямі, каб стаць удзельнікамі Каны і на прыступку вышэй да Неба.

І хутка ня стала сярод нас гаспадароў і гасьцей, ці вядучых і вядомых, бо перажывалі разам Вясельле ў Кане Галілейскай, дзяліліся пакутамі і радасьцямі, ішлі Крыжовай дарогай, сьпявалі псальмы і гулялі ў футбол.

І было адчуваньне, такое нячастае ў штодзённасьці, што — нават калі захочаш упасьці — браты і сёстры не дадуць!

Гэты тыдзень разам застаўся самым яскравым, найлепшым тыднем мінулага лета, можа таму, што было ўсё неўдаваным: сапраўдныя хрост і сапраўдны сужонскі шлюб, бязьмежная шчырасьць і нязмушаная талерантнасьць, сьлёзы й сьмех.

Мы — розныя, скептыкі і паэты, немаўляты і бабулі, настаўнікі ды прадпрымальніцы, кіраўнікі і кіроўцы, яднае нас адно «...да брата Хрыстова Любоў».

**Лена і Серж ПАНАСЕВІЧЫ**
*г.Берасьце*





# Дзень маёй слабасьці

*Наважыўшыся пісаць пра сваю сесію «Каны» ў Жодзіна, раптам усьвядоміла, што прайшоў ужо даволі працяглы час. Натуральна, што нейкія падрабязнасьці перажываньняў забыліся. Але з іншага боку, па гэтым часе адкрылася самае істотнае, і адбылося яно ўжо па-за Канай.*

Пік сесіі — дзень паяднаньня — прайшоў для мяне вельмі цяжка. І ня толькі з вонкавых прычынаў. Гэты дзень стаўся для мяне днём маёй слабасьці.

Гэтая праблема была закрытая ўва мне, забытая і пахаваная так глыбока, што здавалася, яе й не было ніколі. І вось, гэта паднялося з глыбіняў, цемра ахутала мяне... і я збаялася. Я не здолела адкрыць дзьверы і выпусьціць яе. Так я пакрыўдзіла Госпада.

Прабач, Божа, мяне, маю слабасьць. Ты ведаеш, які гэта цяжар для мяне. Ён патануў каменем успамінаў. Навошта Ты падняў яго? «Я хачу, каб ты паглядзела на гэта»,— быў адказ.

Я не магу, я слабая. Ты памятаеш маю споведзь? У мяне ледзьве хапіла сіл проста вымавіць словы. Я хацела забыць усё, мая слабасьць не давала мне нават думаць пра гэта.

Чую голас: «Калі ласка, паглядзі цяпер. Што ты бачыш зараз?»

Я бачу нераскаянасьць свайго сэрца, я шкадую... Калі ласка, Божа, дай мне сілы жыць далей. Маё адчуваньне шчасьця парушылася. Я не магу ўзьняць да Цябе вачэй. Але ж Ты не жадаеш крывавых ахвяраў. Ува мне крывавочыць рана. Я пакрыўдзіла Цябе сваёй слабасьцю.

«Цяпер ты ўжо дастаткова моцная, каб паглядзець на сябе і панесьці сваё раскаяньне. Хіба ты ня бачыш?»

Госпадзе, не патрабуй ад мяне зашмат. Я не магу сказаць гэта ўслых. Я не магу панесьці гэткую рану блізкаму...

«Аддай свой цяжар Мне, і Я абатру твае сьлёзы...»

Божа, я люблю Цябе...

«Я кахаю цябе...»

15 жніўня, Усьпеньне Багародзіцы.

**А. М.**











# Манаства будзе мець перспектывы

**Размова з беларускай грэка-каталіцкай манахіняй-студыткай сястрой ВІКТОРЫЯЙ (Чэкан)**

***— Калі Вы адчулі пакліканьне да манаства?***

— Гэта было на пачатку 1990-х, я ў той час вучылася на філфаку. Госпад проста аднойчы паставіў мяне перад фактам Свайго існаваньня, любові да мяне, жаданьня быць прысутным у маім лёсе. І гэтае адкрыцьцё было настолькі ашаламляльным, што перавярнула ўсё маё жыцьцё. Я навярнулася, прыйшла ў Царкву. А далей пачаліся пошукі свайго месца ў гэтым жыцьці, свайго пакліканьня.

Адказ на гэтыя пытаньні прыйшоў падчас рэкалекцыяў у Друі. Тады я выразна адчула, што Бог кліча мяне да больш глыбокага пазнаньня з Ім. Хоць, трэба шчыра прызнацца, я доўга супраціўлялася, як магла, такім «прэтэнзіям» Бога на маё жыцьцё, але Госпад перамог усе мае страхі, сумнівы, мой недавер. Таму на сьвята Ўзвышэньня Крыжа Гасподняга 1996 году я стала паслушніцай Сьвята-Пакроўскага манастыра сясьцёр Студыйскага Ўставу (так поўна называецца наш манастыр), які знаходзіцца ў Львове.

***— З якімі цяжкасьцямі Вы сустрэліся на сваім манаскім шляху?***

— Было шмат цяжкасьцяў, пачынаючы з асабістых праблемаў, заканчваючы складанасьцямі ў супольным манаскім жыцьці.

Самая складаная рэч, наступствы якой я перажываю яшчэ да сёньня,— гэта адсутнасьць досьведу веры і малітвы. Да таго як патрапіць у манастыр, я не пасьпела навучыцца жыць з Богам, жыць рэгулярным хрысьціянскім жыцьцём на штодзень. А ў манастыры мы трапляем у нейкім сэнсе ў экстрымальныя ўмовы, якія патрабуюць пэўнага досьведу веры. Маю на ўвазе радыкалізм хрысьціянскага жыцьця, якога вымагае манаства. Бо тут мала ведаць *п р а* Бога, трэба ведаць *Б о г а*. Тое, што зьяўлялася натуральным для большасьці маіх сёстраў з Украіны (бо гэта выхоўвалася ў іх з дзяцінства) — верыць Богу, давярацца Яму, хадзіць у царкву, штодня маліцца — ад мяне патрабавала высілкаў, часам і не малых. Многае давялося пазнаваць, як кажуць, на ўласных гузах. Але я ўдзячна Богу за гэты досьвед, бо сёньня гэта дае мне магчымасьць лепш разумець многіх маладых людзей, якія сутыкаюцца з падобнымі праблемамі.

Былі заўсёды цяжкасьці і ў супольным манаскім жыцьці. Але гэта натуральна: дзе ёсьць людзі, там ёсьць нейкія непаразуменьні. Жыцьцё ў супольнасьці вучыць найперш пазбывацца ўласнага эгаізму. Не шукаць выгоды для сябе. Для мяне галоўны закон супольнага жыцьця такі: калі прагнеш дабра для сябе, задбай, каб было добра твайму бліжняму. Па-чалавечы гэта складана, але Госпад надзвычайны педагог, Ён усяму навучыць, усё адкрые. Трэба толькі гэтага прагнуць.

***— Раскажыце пра Вашую манаскую супольнасьць Сясьцёр Студытак.***

Сьвята-Пакроўскі жаночы манастыр Студыйскага Ўставу быў заснаваны ў 1924 годзе ва Ўкраіне непадалёку ад Уніва, дзякуючы мітрапаліту Андрэю Шаптыцкаму, які адрадзіў манаскае жыцьцё паводле Ўставу, напісанага сьвятым Тодарам Студытам († 826).

Усе нашыя манахіні, аб'яднаныя ў адну супольнасьць, сваім подзьвігам, апостальствам манаскага жыцьця і прыкладу пашыраюць сярод людзей любоў да Хрыста, Яго прыказаньняў, Яго навукі, да Хрыстовай Царквы.

Дзень у манастыры падзелены на тры роўныя часткі: 8 гадзінаў працы, 8 — малітвы і 8 — адпачынку. Паводле старажытнай манаскай традыцыі манахіні моляцца поўнае Царкоўнае правіла, г. зн. Вячэрню, Павячэрніцу, Паўночніцу, Ютрань, Літургію ды Гадзіны.

Кожная манахіня ў манастыры працуе згодна з сваімі талентамі: піша іконы, шые, вышывае, вядзе гаспадарку, навучае дзяцей катэхізму або сама навучаецца, тлумачыць кніжкі, а іншыя сваім постам і малітваю ўмацоўваюць тых, хто спаўняе службу Марты. Сёстры мусяць працаваць дзеля таго, каб сваім заробкам дапамагчы ва ўтрыманьні абіцелі ды яшчэ дапамагаць і тым, хто мае патрэбу.

Здаўна пры манастырах студытак адкрываліся таксама сірацінцы, якімі апекаваліся нашыя сёстры. Гэтым яны займаюцца і сёньня.

Галоўнае месца ў нашых абіцелях аддадзена малітве, а ўся праца скіраваная на тое, каб паслужыць Царкве, яе вернікам адпаведна абставінаў, часу і месца.

***— Як выглядае звычайны дзень грэка-каталіцкай манахіні ў Беларусі?***

— Як і кожнай іншай манахіні: малітва і праца. Пачынаецца і заканчваецца малітвай: Ютрань, Гадзіны, Вячэрня. Абавязкова штодня Еўхарыстыя — гэта цэнтр і аснова ўсяго жыцьця. Тодар Студыт кажа, што няма на гэтай зямлі для манаха нічога больш збаўчага, бо менавіта ў сьв. Прычасьці ён найглыбей яднаецца з Хрыстом, згодна са словамі Збаўцы: «Хто спажывае Цела маё і Кроў маю п'е, той ува Мне прабывае, а Я ў ім». Звычайна зранку я стараюся яшчэ прачытаць нешта са Сьвятога Пісьма — гэта хлеб штодзённы. Слова Божае для мяне і лек, і сьвятло, і падтрымка. Пазьней ёсьць мае абавязкі, праца, якой ніколі не бывае замала. Як ведаеце, я цяпер працую ў грэка-каталіцкай парафіі сьв. Язэпа ў Менску, займаюся катэхізацыяй моладзі, скаўтаў, вяду заняткі ў нядзельнай школцы.

***— Ці ня цяжка быць манахіняй у сучасным сьвеце? Тыя зарокі, якія Вы склалі, цалкам супярэчаць яго ідэалам...***

Усё хрысьціянства, па вялікім рахунку, супярэчыць ідэалам гэтага сьвету. Манах — дасканалы хрысьціянін, ён пакліканы ў паўнаце зьдзейсьніць усё, чаму вучыў Хрыстос: насьледаваць Хрыста,ісьці за Ім аж да сьмерці, і нават да сьмерці крыжовай. Так, гэта выклік сьвету, бо ён вучыць, што трэба шукаць задавальненьняў, прыемнасьцяў, а Хрыстос кажа пра крыж, пра самаадрачэньне; сьвет гаворыць, што трэба мець, каб быць кімсьці, а Хрыстос кажа: аддай адну вопратку, калі маеш дзьве... Ніхто не сказаў, што гэта лёгка. Але Хрыстос кажа: «Ярмо маё любае, і цяжар мой лёгкі...» І ў гэты час, калі людзі ўсё больш забываюць пра Бога, пакідаюць Яго, мы будзем вернымі.



*Схіманахіня ВІКТОРЫЯ (Вольга ЧЭКАН) нарадзілася 23 верасьня 1976 годзе ў Гомелі.*

*У 1998 годзе скончыла філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя Ф.Скарыны (сьпецыяльнасьць — беларуская мова і літаратура).*

*З восені 1996 году — паслушніца Сьвята-Пакроўскага жаночага манастыра сясьцёр Студыйскага Ўставу ў г. Львове.*

*З 1997 па 2000 год жыла й працавала разам з сёстрамі-студыткамі ў г. Полацку.*

*З пачатку 2003 году працуе ў грэка-каталіцкай парафіі Праведнага Язэпа ў Менску як катэхетка.*

*24 лістапада 2004 году прыняла манаскі пострыг у Схіму з імем Вікторыя з рук ігумена Сьвята-Ўсьпенскай Уніўскай Лаўры Студыйскага Ўставу ерамахана Бенядыкта.*

***— Вы шмат сустракаецеся з моладдзю. Якая яна — сучасная наша моладзь, чаго шукае, што патрабуе?***

— Сёньняшняе пакаленьне — гэта адкрытыя маладыя людзі, здатныя творча думаць. У іх, як і ў кожнага новага пакаленьня, свае ідэалы, свае мары. Ад нас жа сёньня патрабуецца даць ім выразнае сьведчаньне веры, даць магчымасьць пазнаць сапраўдныя каштоўнасьці, тыя, якія прапануе Евангельле.

***— Пакуль што Вы — адзіная манахіня ў Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве. Ці мае сёньня жаночае манаства свае перспектывы ў нашай Царкве?***

Думаю, да таго часу, пакуль Госпад будзе клікаць да Сябе на службу хлопцаў, дзяўчат, манаства ўвогуле і жаночае манаства ў прыватнасьці, будзе мець перспектывы. Я мяркую, што і сярод нашай беларускай моладзі ёсьць тыя, у сэрцы якіх Госпад пасеяў гэтае жаданьне — аддаць Яму сваё жыцьцё. Толькі адказаць на гэтую прапанову маладым людзям перашкаджае страх, няпэўнасьць у сабе, а яшчэ больш — недавер да Бога, страх аддацца цалкам у рукі Божыя, даверыцца Яму.

ЕЎХАРЫСТЫЯ Ў ЧАТЫРОХ ЕВАНГЕЛЬЛЯХ

# «Гэта чыніце на Мой успамін»

**(Еўхарыстыя ў Евангельлі сьв. Лукаша)**

*«Гэта ёсьць Цела Маё, якое за вас аддаецца; гэта чыніце на ўспамін пра Мяне»,* — падае сьв. Лукаш *(Лк 22, 19)*. Параўноўваючы гэты фрагмент з падобнымі апісаньнямі ўстанаўленьня Еўхарыстыі ў іншых сінаптычных Евангельлях, можна заўважыць пэўную зьмену: у словах, якія Ісус скіроўвае да вучняў, няма звароту «Бярыце, ешце, гэта ёсьць Цела Маё», як мы бачылі гэта ў евангеліста Мацьвея, няма таксама й Маркавага «Бярыце, гэта ёсьць Цела Маё». Без сумніву, сьв. Лукаш, як і іншыя евангелісты, мае на ўвазе спажываньне хлеба — Цела Хрыстова, і віна — Яго Крыві, пра што і гавораць некалькі вершаў раней *(Лк 22, 14-18)*, а таксама ў фрагменце, які мы зацытавалі: «І, узяўшы хлеб, склаў падзяку, і паламаў, і даў ім» *(Лк 22, 19)*.

Але ў гэтым кароткім разважаньні мы хочам зьвярнуць увагу на іншы аспэкт Еўхарыстыі, які робіць для нас больш зразумелым евангеліст Лукаш у прыведзеным вершы. Гэта аспэкт, які датычыць Гісторыі Збаўленьня і які прысутнічае ва ўсім апісаньні ўстанаўленьня Еўхарыстыі: Хрыстос быў выдадзены за нас усіх, а ўдзел у Еўхарыстычнай Трапезе нагадвае нам важныя для нашага збаўленьня падзеі з Яго жыцьця, дзейнасьці, мукі, сьмерці і ўваскрасеньня.

Сьвятога Лукаша часта лічаць багасловам гісторыі Збаўленьня. Большасьць тэалагічных тэмаў, якія знаходзяцца ў ягоным Евангельлі, альбо непасрэдна спалучаюцца з тэмаю Гісторыі Збаўленьня, альбо таксама вынікаюць з яе. Гісторыязбаўчае вымярэньне ў творы Лукаша праяўляецца ў асаблівай цікавасьці да падзеяў з жыцьця Хрыста, месца й ролі Збаўцы ў дзеях чалавека й сьвету, месца Царквы ў Гісторыі Збаўленьня, у спалучэньні гісторыі з метагісторыяй, часовага з жыцьцём будучым. У гэтым кантэксьце добра выяўляецца фрагмент устанаўленьня Еўхарыстыі, ламаньня й раздаваньня вучням хлеба. Яшчэ падчас публічнай дзейнасьці Ісуса зьяўляецца тэма, якая нейкім чынам мае адносіны да падзеяў пры еўхарыстычным стале. Хрыстос раздае тым, што Яго слухаюць, памножаныя хлеб і рыбу: «А ён, узяўшы пяць хлябоў і дзьве рыбы, зірнуў на неба і блаславіў іх, паламаў і даваў вучням, каб раздавалі народу» *(Лк 9,16)*. Збаўца тут паказаны як падаўца жыцьцядайнай ежы, пасьля спажываньня якой чалавек ужо не застанецца галодны. А ў вершах *Лукаша 22:19* Хрыстос ня толькі дае вучням хлеб — Сваё Цела, і келіх з віном — Сваю Кроў, але і ўсе гэтыя дзеяньні спалучае з падзеямі пакутаў, сьмерці і ўваскрасеньня — падзеямі Гісторыі Збаўленьня. Толькі ў перспэктыве збаўчых падзеяў, у перспэктыве, якую адкрывае Гісторыя Збаўленьня, набывае поўню і завершанасьць Еўхарыстычная Трапеза, прычасьце Цела і Крыві Хрыстовых.

Апісаньне ўстанаўленьня Еўхарыстыі ў Евангельлі сьв. Лукаша падобнае да апісаньня ў першым лісьце да Карынцянаў сьв. Паўла *(1 Кар 11, 23-26)*. Прымаць Цела і Кроў Хрыста належыць «пакуль ня прыйдзе» *(1 Кар 11,26)*, і гэтак мы ўзгадваем падзеі Яго сьмерці, пралітую за нас кроў *(Лк 22, 20)*. У сьвятле фрагменту ўстанаўленьня Еўхарыстыі ў сьв. Лукаша можна сказаць, што праз удзел у Еўхарыстыі мы ня толькі яднаемся з Хрыстом, але таксама ўдзельнічаем у Гісторыі Збаўленьня, якая ахоплівае ня толькі нашае цяперашняе жыцьцё, сьвет бачны, але й жыцьцё будучае, вечнае жыцьцё з Хрыстом у новай рэчаіснасьці, у новым сьвеце.

Вячаслаў СТЭЦКО

# Сьвята Росіцкіх Навамучанікаў

***19-20 жніўня 2005 году ў вёсцы Росіца, што на Верхнядзьвіншчыне, прайшлі ўрачыстасьці ў гонар блаславёных мучанікаў сьвятароў Антонія Ляшчэвіча й Юрыя Кашыры. Гэтыя каталіцкія сьвятары прынялі мучаніцкую сьмерць разам з мясцовымі жыхарамі, якіх фашысты спалілі ў часе карнай аперацыі ў лютым 1943 году.***

Ужо ня першы год адбываюцца традыцыйныя пілігрымкі да гэтага Богам асьвячанага месца. З Полацку і Друі прыйшлі пешыя пілігрымкі, але было шмат і тых, хто прыехаў здалёк з розных гарадоў Беларусі ў гэты маляўнічы куток Віцебшчыны, каб памаліцца на месцы мучаніцтва ахвярных у сваім служэньні Богу і людзям айцоў-марыянаў. Сярод пілігрымаў былі грэка-католікі з Менску, Полацку, Віцебску й Берасьця разам з сваімі сьвятарамі, а таксама семінарысты і манахі-студыты з Полацкага манастыра. Адным з першых богаслужэньняў гэтых урачыстасьцяў быў Акафіст да Найсьвятой Багародзіцы, які маліліся супольна католікі візантыйскага і лацінскага абрадаў. Наступнага ранку грэка-каталіцкія сьвятары ў саслужэньні правілі ўрачыстую Боскую Літургію, на якой казаньне меў ераманах Лявонці (Тумоўскі) з Полацку.

У рамках сьвяткаваньня адбылася таксама літаратурная сустрэча з Ірынай Жарнасек — аўтаркай раману «Будзь воля Твая», які прысьвечаны росіцкай трагедыі.

***— Як людзі на вуліцы рэагуюць на Вашую манаскую вопратку? Можа, было нейкае цікавае здарэньне?***

Звычайна людзі паглядаюць з зацікаўленасьцю. Часам — з непаразуменьнем, з гэтакім пытаньнем у вачох: «Навошта?» І толькі зрэдку — з адкрытай варожасьцю. А сьмешных здарэньняў было шмат. Хіба, вось адно. Неяк я пераходзіла праз дарогу, па якой ішлі маладыя людзі. І толькі я ступіла, каб перайсьці перад імі, як яны закрычалі: «Ой, не пераходзьце, калі ласка, нам дарогу!» Аказалася — гэта, нібыта, да няшчасьця. Як чорная кошка...

***— Дзякуем за размову! Будзем спадзявацца й верыць, што сярод беларускіх дзяўчат знойдуцца тыя, хто адчуе заклік Госпада да служэньня Царкве ў манаскім стане і што супольнасьць манахіняў-студытак у Беларусі будзе разьвівацца.***

*Гутарыў а. Андрэй КРОТ*

# Граматы падзякі вернікам БГКЦ

***На заканчэньне сёлетняй Пілігрымкі з Віцебску ў Полацак у гонар Полацкіх мучанікаў-базыльянаў у 300-ыя ўгодкі іх сьмерці Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) падчас урачыстай Боскай Літургіі ў нядзелю, 10 ліпеня 2005 году, уручыў асобным вернікам Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы за іх заслугі Граматы падзякі.***

Першым быў узнагароджаны вернік Парафіі праведнага Язэпа ў Менску Народны паэт Беларусі **Рыгор БАРАДУЛІН**. Падобныя Граматы падзякі атрымалі таксама:

- старшыня Парафіі сьвятамучаніка Язафата ў Полацку сп. **Мікалай ШАРАХ** — *«за шматгадовае ахвярнае служэньне як арганізатар штогадовай агульнацаркоўнай Пілігрымкі з Віцебску ў Полацак»*;
- спн. **Сьвятлана БЕЛЬСКАЯ** з Клубу каталіцкай інтэлігенцыі імя сьв. Кірылы Тураўскага пры Парафіі праведнага Язэпа ў Менску — *«за дзейнасьць на полі разьвіцьця сярод беларускай інтэлігенцыі дыялогу паміж верай, культурай і навукай»*;
- сп. **Іван АНТАНЮК** *«за шматгадовае ахвярнае служэньне на пасадзе старшыні Парафіі Маці Божай Нястомнай Дапамогі ў Менску»*.

+
Архімандрыт СЯРГЕЙ
Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў
Беларусі

**ГРАМАТА ПАДЗЯКІ**

*Узьлюбленаму ў Госпадзе*
*Рыгору БАРАДУЛІНУ.*

Таямніца Еўхарыстыі, якую ў гэтым годзе
асабліва перажываем ва ўсёй
Каталіцкай Царкве, заахвочвае нас,
каб Вам, як Сыну
Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы,
на сямідзясяты год Вашага жыцьця,
выразіць глыбокую падзяку
за Вашую натхнёную Евангельлем
дзейнасьць на полі беларускай культуры,
а асабліва за Ваш пераклад
«Рымскага Трыпціха»
Яго Сьвятасьці Папы Яна Паўла II
і за стварэньне «Рымскага Дыпціха» —
Вашага сьведчаньня пра духовыя
каштоўнасьці.

*Блаславеньне Гасподняе хай будзе на Вас*
*ласкаю Яго і чалавекалюбствам.*

**+ Архім. СЯРГЕЙ (Гаек)**
**Апостальскі Візітатар**

*Менск, у дзень Вярхоўных Апосталаў*
*Пятра і Паўла, 29 чэрвеня 2005 г.*

Д-р Сьвятлана МАРОЗАВА (Горадня)

# Місія камергера Скрыпіцына

*Даклад з Міжнароднай канферэнцыі «Гісторыя рэлігій на Украіне» (Львоў, травень 2005).*

*Чыноўнік Сіноду Скрыпіцын — малавядомая для гісторыкаў асоба. У 1838-1839 гг. ён двойчы быў накіраваны Мікалаем I у заходнія губерні Расейскай імперыі для вывучэньня ступені гатоўнасьці беларускага і ўкраінскага грамадзтва да ліквідацыі Уніяцкай Царквы і для забесьпячэньня посьпеху на апошнім этапе «узьяднаньня уніятаў». Па выніках сваіх паездак камергер В.Скрыпіцын падрыхтаваў некалькі сакрэтных аналітычных дакладаў, у якіх прааналізаваў настроі сьвятароў і вернікаў у розных рэгіёнах, зьвярнуў увагу на прычыны іх супраціву пераходу ў праваслаўе і прапанаваў канкрэтныя крокі для пасьпяховага і хуткага зьнішчэньня Уніі ў краі. Магчыма, менавіта яго рапарты прысьпешылі скасаваньне Уніі, бо ўніяцкае духавенства пачынала самаарганізоўвацца і бунтаваць супраць рашэньня сваіх «пастыраў».*

Сярод «ліквідатараў» Уніяцкай Царквы ў Беларусі (галоўным чынам) і Украіне ёсьць адна постаць, якую звычайна ня згадваюць гісторыкі. Між тым, чалавек гэты, упаўнаважаны самім імператарам, адыграў важную ролю ў падзеях сярэдзіны 1838 — пачатку 1839 г., зьвязаных з масавай рэлігійнай канверсіяй уніятаў.

Каб пасьпяхова давесьці да канца распачатую ў Расейскай імперыі справу ліквідацыі царкоўнай уніі, 23 мая 1838 году Мікалай I камандзіраваў у Беларусь і Украіну камергера В.Скрыпіцына — чыноўніка па асобых даручэньнях пры обер-пракурорры Сіноду. Мэтай яго падарожжа было вывучэньне сітуацыі на месцы, азнаямленьне з ходам рэфармаваньня Уніяцкай Царквы ў духу яе збліжэньня з расейскім праваслаўем, аналіз настрояў беларускага і украінскага грамадзтва і ацэнка стану яго гатоўнасьці да ліквідацыі Уніі. Шлях Скрыпіцына ляжаў праз Люцын - Себеж - Полацак - Віцебск - Воршу - Менск - Вільню - Слонім - Жыровічы Горадню - Беласток - Берасьце - Ратна - Луцк - Дубна - Пачаеў - Крамянец - Жытомір - Кіеў і назад праз Жытомір - Оўруч - Мазыр - Магілёў - Віцебск - Полацак - Люцын. На шляху праз Беларусь ва Украіну Скрыпіцын наведаў 77 цэркваў і 13 манастыроў у Беларускай і Літоўскай япархіях*. З розных гарадоў гэты чыноўнік па асобых даручэньнях накіроўваў у сталіцу імперыі лісты і рапарты з характарыстыкай сітуацыі на месцах. А па заканчэньні свайго падарожжа 31 жніўня 1838 году Скрыпіцын склаў пісьмовую справаздачу пра выкананьне заданьня [4; 6; 8, с.174-175].

10 чэрвеня 1838 году пецярбургскі чыноўнік паведамляў у сваім сакрэтным рапарце № 4 з Віцебску обер-пракурору Сінода: «...У грэка-уніяцкім духавенстве відаць столькі дзейнасьці, а ў прыхаджанах — столькі пакоры, што уніяцкая царква павінна прыйсьці да жаданага ўладкаваньня [...], калі толькі грамадзянскае начальства будзе шчыра імкнуцца ўтаймоўваць спробы супрацьдзеяньня нясхільных да гэтае справы асобаў» [6, арк. 1 адв.-2]. З Менску 17 чэрвеня 1838 году Скрыпіцын пісаў пра тое, што вельмі важна, каб «кожная нядобранамераная асоба была прасякнутая не запальчывасьцю, а непахіснай цьвёрдасьцю і няўмольнай воляй галоўнага начальніка *(генерал-губернатара — С.М.)* караць, каб адна думка пра яго нейтралізоўвала ўсялякі супрацьзаконны і непрыязны замах». Ліквідацыя Уніі, як паведамляў у Сінод Скрыпіцын, «тут ужо не зьяўляецца тайнай, бо ўсе пра гэта галосна гавораць» [6, арк. 3 адв., 5 адв.].

Найбольшую інфармацыйную каштоўнасьць уяўляе аналітычны рапарт Скрыпіцына за №18 ад 31 жніўня 1838 году, пададзены обер-пракурору Сінода [6, арк. 14-32].

Высокі чыноўнік прыйшоў да высновы, што настроі духавенства Беларускай і Літоўскай япархіяў адрозьніваюцца.** На 15 жніўня 1838 году ў Беларускай япархіі выказалі згоду пакінуць Унію толькі 25 % духавенства, а ў Літоўскай — амаль 72 %. Гэтая згода афармлялася ў выглядзе пісьмовых расьпісак, якія рознымі, часта несумленнымі спосабамі браліся, а насамрэч — выбіваліся духоўным начальствам з свайго кліру. Паводле падлікаў Скрыпіцына, у абедзьвюх япархіях было сабрана 946 такіх расьпісак (760 — у Беларускай япархіі і 186 — у Літоўскай). Іх адмовіліся даць 791 чалавек белага духавенства і манахаў (494 — у Беларускай япархіі і 297 — у Літоўскай) [8, с. 174]. «Адмаўленцы» (ад дачы падпісак) ня ведалі, што для іх ужо вызначаюцца месцы зьняволеньня. Мясцовыя духоўныя ўлады, як вынікае з справаздачы, намерваліся пасьля агульнага далучэньня уніятаў да праваслаўя «недастаткова надзейных» манахаў Літоўскай япархіі заключыць у Быценьскі манастыр ля Жыровічаў, пад непасрэдны нагляд япіскапа Ёсіфа Сямашкі. Для «зусім ненадзейных» прызначаўся Любарскі манастыр у Валынскай губерні, акружаны праваслаўнымі прыходамі [4, арк. 26].

Статыстыка Скрыпіцына пацьвярджае яго выснову, што найбольшы супраціў «узьяднаньню» аказала духавенства ўсходу Беларусі. Завадатарамі супраціву ён лічыў сьвятароў Яна Ігнатовіча (Галоўчынская царква Полацкага павету), Адама Тамкавіда (Ікасьненская царква Дзісьненскага павету), Ігната Малішэўскага (Залеская царква Дзісьненскага павету), Яна Тачыцкага (Дварэцкая царква Лепельскага павету) і Канстанціна Мальчэўскага (Старабыхаўская царква Новабыхаўскага павету). «Гэтыя 5 сьвятароў хвалююць духавенства і нават сам народ не з рэлігійнага фанатызму, але з вальнадумства, таму неадкладнае выдаленьне іх з япархіі ва ўсіх адносінах крайне неабходнае»,— данасіў у сваім рапарце Скрыпіцын. Ён раіў пад зручнай зачэпкай як можна хутчэй выслаць іх у расейскія праваслаўныя манастыры. На яго думку, такі прэцэдэнт уціхамірыў бы і астатняе «свавольнае духавенства» [6, арк. 20 адв.-21].

Сярод прычынаў, якія ўскладнялі далучэньне уніятаў на ўсходзе Беларусі, галоўнымі Скрыпіцын назваў наступныя: 1) уплыў памешчыкаў-каталікоў на сялянаў і сьвятароў; 2) паслабленьні для завадатараў супраціву з боку грамадзянскіх чыноўнікаў каталіцкага веравызнаньня; 3) пакіданьне ў многіх парафіях маланадзейных сьвятароў; 4) сакрэтнае працідзеяньне епархіяльнага начальства і некаторых уніяцкіх сьвятароў, зьвязаных з памешчыкамі [4, арк. 1-2 адв.].

«Рашучае садзейнічаньне ўрада,— рабіў выснову камергер Скрыпіцын,— цяпер ужо неабходнае, бо ўсялякае прамаруджваньне можа расстроіць і добранамеранае духавенства ў абедзьвюх япархіях, а пры далейшым адкладваньні — і іх пісьмовыя абавязацельствы могуць страціць сваю сілу» [6, арк. 21 адв.].

Больш сьмелы, нават дзёрзкі супраціў планам ураду, паводле назіраньняў імператарскага упаўнаважанага, аказвалі памешчыкі ды сяляне ўсходу Беларусі. Таму Скрыпіцын прапанаваў ускласьці на паноў адказнасьць за антыўзьяднаўчыя хваляваньні сялянаў. За ўсялякі сялянскі супраціў памешчыка належала дэпартаваць у расейскія губерні, а яго маёнтак браць у секвестр, бо непакорнасьць сялянаў заўсёды адбываецца не інакш, як «паводле таемных настаўленьняў паноў, арандатараў, упраўляючых маёнткамі і ксяндзоў» [6, арк. 21 адв.].

Наогул, усіх уніятаў Скрыпіцын падзяліў на 3 групы: добранадзейных, якія станоўча ставіліся да перамены веры; паслухмяных, а такса-

* *Беларуская япархія ахоплівала парафіі пераважна на паўночным усходзе Беларусі ў Віцебскай, Магілёўскай, значнай часткі Менскай губерні, а таксама невялікую колькасьць уніяцкіх парафіяў ва ўсходняй частцы Валынскай губерні, у Кіеўскай ды Херсонскай губернях; асноўная колькасьць парафіяў Літоўскай япархіі знаходзілася на тэрыторыі Гарадзенскай губерні, у заходняй частцы Менскай і заходняй частцы Валынскай губерняў, па некалькі дзясяткаў парафіяў знаходзіліся ў Беластоцкай акрузе, у Віленскай і Падольскай губернях — Рэд. «ЦАРКВЫ».*

** *Магчыма, адной з прычынаў гэтага было тое, што ў Літоўскай япархіі уніяцкіх сьвятароў пасьпелі «апрацаваць» яшчэ раней. Так, у 1834-35 гг. духавенства навагрудзкага, камянецкага і бельскага дэканатаў, апелюючы да тагачасных расейскіх нормаў права, што забараняла ўжываць прымус у рэлігійным жыцьці, на сваіх сходах уласнаручна падпісала і накіравала ўладам петыцыі з пратэстам супраць прымусовага ўвядзеньня нязгодных з каталіцкай навукай богаслужбовых кніг маскоўскага праваслаўнага друку. Адказам на гэта сталі жорсткія рэпрэсіі найперш да ініцыятараў, а таксама і да ўсіх падпісантаў, прычым, як з боку духоўнай улады (біскупа Сямашкі), так і паліцыі. У выніку пад пагрозай жорсткай судовай расправы большасьць сьвятароў вымушаны былі ўпакорыцца, а самыя ўпартыя — пазбаўлены сваіх парафіяў і паніжаны да дзякаў, іншыя ж былі высланы на паўгады на «перавыхаваньне» ў манастыры, а некаторыя нават — у глыб Расеі. — Рэд. «ЦАРКВЫ».*

ма непрыхільных. Да першай катэгорыі («добранадзейных») ён залічыў 633 парафіі ў межах Гарадзенскай і Віленскай губерняў, заходніх паветаў Валынскай і Менскай губерняў, Беластоцкай вобласьці, а таксама Пінскага, Слуцкага і Менскага паветаў. Да другой групы — «паслухмяных» — залічана 441 парафія амаль усёй Віцебскай і Магілёўскай губерняў, а таксама той часткі Менскай губерні, што з імі мяжуе. Да трэцяй групы («непрыхільных») належалі паўночныя паветы Віцебскай губерні: Себежскі, Полацкі, Лепельскі і Дрысенскі, а таксама Дзісьненскі павет Менскай губерні, Амсьціслаўскі і Сеньненскі паветы Магілёўскай губерні, Оўруцкі павет Валынскай губерні і Радамышльскі павет Кіеўскай губерні — усяго 151 парафія. На гэтую апошнюю групу парафіяў і паветаў Скрыпіцын раіў зьвярнуць асаблівую ўвагу [6, арк. 27 адв.-28].

Агульная выснова чыноўніка з Сіноду была наступнай: пры цяперашніх абставінах «усялякае замаруджваньне мае быць толькі шкодным, а далейшае адкладваньне лёгка можа, калі не зусім разбурыць, дык адтэрмінаваць... вялікі дзяржаўны пачын у справе далучэньня грэка-ўніяцкай царквы» [6, арк. 31].

Дзякуючы аналітычнай справаздачы камергера Скрыпіцына, афіцыйны Пецярбург у цэлым арыентаваўся ў сітуацыі і настроях, якія панавалі ў Беларусі і Ўкраіне. Да восені 1838 году як на месцах, так і ў сталіцы было відавочна, што зьнішчэньне Уніі — справа часу. Завяршаўся збор подпісак пра згоду далучыцца да праваслаўя, «калі на тое зьявіцца найвышэйшая воля». Усе чакалі толькі імператарскага ўказу пра ўсеагульную канверсію ўніятаў.

Але тут, нібы гром сярод яснага неба, у сталіцу імперыі прыляцела вестка: 111 сьвятароў з Белай Русі (усходняй Беларусі) вырашылі стаяць за унію. І гэта ў той час, калі ў Літоўскай япархіі ўся без выключэньня ўніяцкая эліта ўжо далучылася да лагеру прыхільнікаў праваслаўя! Такога дзёрзкага й масавага выступленьня «супраць урадавай мэты» ніхто ў Пецярбургу не чакаў.

Да сярэдзіны верасьня 1838 году ў вёску Царкаўляны, што ў Дзісьненскім павеце Менскай губерні, зьехаліся і сышліся многія адданыя Уніі сьвятары. Там яны правялі несанкцыянаваны сход, на якім рашылі стаяць за сваю веру. Арганізатарамі гэтай акцыі пратэсту былі асэсар Полацкай грэка-ўніяцкай кансісторыі а. Ян Ігнатовіч і а. Адам Тамкавід. Ігнатовіч зьвярнуўся да народу з заклікам, «каб цьвёрда трымаліся сваёй уніяцкай веры». Зачыншчыкі, як сьведчаць дакументы Сіноду, «хацелі ўзбудзіць народ да супраціўленьня» [4, арк. 43 адв].

Царкаўлянскі сход выпрацаваў петыцыю-просьбу да імператара аб абароне і дапамозе. У кіраўніка дзяржавы прасілі назаўсёды пакінуць у Уніі духавенства і парафіянаў тых паветаў, чые прадстаўнікі падпісалі петыцыю. Прасілі таксама прызначыць для тых, хто застаўся верным сваёй Царкве, асобнага пастыра і духоўнае начальства. Петыцыю падпісалі 111 сьвятароў. Для яе дастаўкі ў Пецярбург сход абраў дэлегацыю. Выканаць гэтую місію выпала сьвятарам Лепельскага і Астровенскага дэканатаў [4, арк. 6 адв., 24]. Каб зьвярнуцца з лістом да імператара, трэба было атрымаць пісьмовыя даверанасьці на тое кожнага з падпісантаў.

11 лістапада 1838 году ў Царскім сяле обер-пракурор Сіноду граф Пратасаў дакладваў імператару (з падачы Скрыпіцына) наступнае: «Справа агульнага ўзьяднаньня ўніятаў магла б лічыцца ўжо далёка прасунутай, калі б Беларуская япархія дасягнула роўнай ступені (*гатоўнасьці — С.М.*) з Літоўскай. ...Цяпер асабліва патрэбныя высілкі мясцовых грамадзянскіх начальстваў, каб утаймоўваць яўныя і тайныя супрацьдзеяньні... Што да асобаў, якія пашыраюць сваю нядобранадзейнасьць да дзёрзкага ўзбуджэньня іншых супраць урадавай мэты, [...] прысутнасьць іх у заходніх губернях робіцца шкоднай». Кіраўнік рэлігійнымі справамі імперыі прасіў найвышэйшага дазволу на тое, каб епархіяльнае начальства мела права высылаць з Беларускай япархіі тых духоўных, якіх яно палічыць патрэбным, у вялікарасейскія манастыры, а таксама прасіў даць сакрэтнае даручэньне генерал-губернатарам заходніх губерняў «пра ўзмацненьне [...] мераў асьцярожнасьці ды пільнага нагляду для папярэджаньня найменшых беспарадкаў пры цяперашнім пераўтварэньні грэка-уніяцкай царквы» [4, арк. 1-2 адв.].

*Былы Анупрэеўскі базыльянскі манастыр на Магілёўшчыне каля Амсьціслава.*

28 сьнежня 1838 году обер-пракурор Сіноду прапанаваў імператару ў сувязі з справай 111-ці зноў камандзіраваць у Беларускую япархію Скрыпіцына дзеля «спрыяньня ходу ўніяцкай справы ў цяперашняй важнай для яе сітуацыі». Мікалай I даручыў Скрыпіцыну вінаватых у падачы дзёрзкай просьбы расшукаць і пакараць. [4, арк. 29-29 адв., 32]. Для разборкі па гэтай справе імператар загадаў ехаць у Полацак таксама і Літоўскаму япіскапу Сямашку.

Зусім верагодна, што боязь пашырэньня царкаўлянскай акцыі пратэсту, разам з аўтарытэтнай заявай Скрыпіцына пра тое, што Беларусь гатова да ліквідацыі Уніяцкай Царквы, а прамаруджваньне можа разбурыць гэтак старанна падрыхтаваную справу, прысьпешылі санкцыю афіцыйнага Пецярбурга на ўсеагульную канверсію ўніятаў.***

Царкаўлянскі сход і петыцыя на царава імя былі апошнім радыкальным крокам у супраціве ўніяцкага духавенства. Далей ужо ішлі, галоўным чынам, рэпрэсіі. Пачалася, скажам так, зачыстка рэлігійнага поля ў Беларусі.

4 студзеня 1839 году ў Пецярбургу адбылося чарговае пасяджэньне Сакрэтнага камітэту па ўніяцкіх справах. На ім прысутнічалі шэф жандармерыі генерал А.Бенкендорф, міністр дзяржаўных маёмасьцяў П.Кісялёў, міністр унутраных справаў Д.Блудаў, обер-пракурор Сіноду граф М.Пратасаў. На пасяджэньне былі запрошаны таксама генерал-губернатары: Смаленскі, Віцебскі і Магілёўскі — Дзякаў ды Віленскі, Гарадзенскі, Беластоцкі й Менскі — Далгарукаў. Іх надзялілі на тым пасяджэньні надзвычайнымі паўнамоцтвамі на час канверсіі ўніятаў [7, арк. 1-1 адв.].

Апошні акт уніяцкай трагедыі няўмольна набліжаўся. Па загаду Мікалая I у заходнія губерні быў камандзіраваны ўсё той жа саветнік обер-пракурора Сіноду камергер Скрыпіцын. Ён меў «асобае даручэньне па грэка-ўніяцкіх справах», выкладзенае ў сакрэтнай запісцы-інструкцыі ад 6 студзеня 1839 году, якую атрымаў ад свайго шэфа. «Уважліва назіраць за настроямі грэка-ўніяцкага духавенства,— патрабавала інструкцыя. — Зьвяртаць пастаянную ўвагу на супрацьдзеяньні, якія могуць быць ад памешчыкаў і лацінскага духавенства... Калі заўважаны будзе дзесьці пачатак неспакою, схільнасьць да хваляваньняў, неадкладна з эстафетай паведамляць пра гэта мясцоваму губернатару, даводзячы разам з тым да ведама генерал-губернатара, з дадаткам яму, калі будзе вядома, якія асобы зьяўляюцца галоўнымі зачыншчыкамі і завадатарамі астатніх... Штотыднёва дакладваць мне пра ўсё заўважанае вамі згодна ўскладзенага на вас даручэньня, пра вашыя дзеяньні, пра асобаў, якія асабліва адзначыліся актыўнасьцю або заўважаныя ва ўпартасьці і нядобранадзейнасьці, далейшае знаходжаньне якіх у гэтым краі можа быць у цяперашні час шкодным» [7, арк. 62-67].

Дзеля канчатковых нарадаў адносна «вяртаньня ўніятаў да Праваслаўнай Царквы» прыбылі япіскапы Ёсіф Сямашка, Васіль Лужынскі, Антон Зубко. Сямашка, паводле загаду імператара, заняўся таксама разборкай па «справе 111-ці».

Працяг на с.14 ⇨

**** Дарэчы, пагроза такая, напэўна, сапраўды была, бо ўжо 19 верасьня 1838 году, усяго праз тры дні пасьля царкаўлянскага пратэсту, 15 сьвятароў прычым ужо з Літоўскай япархіі — з Бельскага дэканату — накіравалі аналагічны пратэст міністру Бенкендорфу, у якім яны патрабавалі выкананьня гарантаванага ім расейскімі законамі права на свабоду веравызнаньня. Пры гэтым уніяцкія сьвятары скардзіліся на свае духоўныя ўлады, якія з дапамогаю падману прымусілі іх даць подпісы са згодаю пра іх добрахвотны пераход у праваслаўе...— Рэд. «ЦАРКВЫ».*

# Апостальская візітацыя парафіі ў Антвэрпане

*У нядзелю, 25 чэрвеня 2005 году Апостальскі Візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа мітрафорны протаярэй Аляксандар Надсан зьдзейсьніў апостальскую візітацыю ў Антвэрпанскую місійную парафію Ўваскрасеньня Хрыстовага.*

У саслужэньні мясцовага грэка-каталіцкага параха а. Яна Майсейчыка Апостальскі Візітатар а. Аляксандар Надсан адправіў Боскую Літургію, на якую сабралася каля паўсотні вернікаўбеларусаў з Антвэрпану і Брусэлю. У сваім казаньні айцец А. Надсан выказаў задавальненьне разьвіцьцём грэка-каталіцкай парафіі ў Бельгіі, якая 1 чэрвеня 2005 году адзначыла двухгоддзе свайго літургічнага жыцьця. Айцец Візітатар пажадаў мясцовай беларускай грамадзе яшчэ больш руплівага гуртаваньня вакол Царквы, каб пераадольвалі рознасьці поглядаў і ўспрымалі адзін аднаго такімі, якімі ёсьць, у духу Хрыстовае любові і ўніяцкага пакліканьня да еднасьці. У адказ айцец Я. Майсейчык падзякаваў Апостальскаму Візітатару за спрыяньне й сталую малітву, без якіх немагчыма было б дасягнуць таго, што парафія мае на сёньня, а менавіта магчымасьць разам зьбірацца, яднацца ў малітве й славіць Бога ў сваёй роднай мове на чужыне, спазнаючы дарогу да Хрыста.



Пасьля Боскае Літургіі айцец парах ад імя ўсяе парафіі павіншаваў спн. Ірыну Дубянецкую з атрыманьнем навуковай ступені доктара багаслоўя, падарыў ёй кветкі і пажадаў добрага плёну на царкоўнай ніве. Айцу Візітатару была паднесена сьвятая прасфора — сымбаль малітоўнае лучнасьці. Завершылася Візітацыя сумесным пачастункам за кавай, на якім вернікі мелі магчымасьць непасрэднага кантакту з айцом Візітатарам, які, нягледзячы на ўзрост, слабое здароўе і частае фізічнае недамаганьне, ужо чацьвёрты раз наведаў супольнасьць у Антвэрпане, якую ён вельмі любіць і з якой шчыра ўсьцешаны.

## У БГКЦ ПЕРШАЯ ДОКТАРКА БАГАСЛОЎЯ

***Ірына Дубянецкая — першая беларуская грэка-каталічка, якая пасьпяхова абараніла дысертацыю на атрыманьне ступені доктара багаслоўя. Варта зьвярнуць увагу, што ў Беларусі жанчынаў-дактароў багаслоўя ўсяго некалькі чалавек.***

Дзевяць гадоў таму спн. Ірына Дубянецкая з Менску атрымала стыпендыю на навучаньне ў Лёвэнскім каталіцкім унівэрсітэце (Бельгія). З таго часу яна працавала над некалькімі навуковымі працамі па сакральнай тэалогіі і арыенталістыцы, грунтоўна вывучала старажытныя мовы Блізкага Ўсходу. Плёнам дасьледаваньняў старажытных міфалагічных тэкстаў Блізкага Ўсходу і Бібліі стала доктарская праца на тэму «Космас і хаос у Бібліі і старажытных міфалогіях Блізкага Ўсходу». У сваёй працы, якая мае аб'ём пад 400 старонак, спн. І.Дубянецкая прааналізавала больш за тры тысячы тэкстаў. Трэба адзначыць, што падобнымі дасьледаваньнямі цывілізацыяў Старажытнага Ўсходу ў Беларусі дагэтуль наогул не займаліся.

На абароне доктарскай дысертацыі сваёй вучаніцы прысутнічаў айцец Аляксандар Надсан, які адным з першых павіншаваў спн. Ірыну Дубянецкую.

# *Місія камергера Скрыпіцына*

Заканчэньне з с.12-13

«Падрыхтаваны для паднясеньня гасудару імператару акт (пра далучэньне ўніятаў да Расейскай Праваслаўнай Царквы — *С.М.*), — даносіў Бенкендорфу з Менску маёр корпусу жандараў Ламачэўскі,— будзе падпісаны важнейшымі духоўнымі асобамі ў колькасьці да 22-х. Да яго будзе дададзена да 1800 падпісак уніяцкіх дэканаў і сьвятароў, якія выказалі жаданьне на прыняцьце ранейшых абрадаў праваслаўнай царквы, перайначаных часам і ўплывам палітычных абставінаў» [1, арк. 6-6 адв.].

Планавалася прадэманстраваць ураду поўнае, стопрацэнтнае, аднадушша духавенства ў жаданьні пакінуць Унію. Да апошняга моманту спадзяваліся дамагчыся менавіта такой колькасьці згодных на далучэньне. І ўсё ж трэць духавенства згоды на далучэньне так і не дала. І гэта тлумачыць жорсткасьць таго рэпрэсіўнага махавіка, які да апошняга дня выбіваў з разьяднаных сьвятароў подпісы пад расьпіскамі на далучэньне да праваслаўя і караў тых з 111-ці, хто ад свайго подпісу ў абарону уніі не адрокся. Скрыпіцыну і Сямашцы належала ў гэтым першаступенная роля.

Ужо пасьля Полацкага царкоўнага сабору 12 лютага 1839 году, на якім было афіцыйна абвешчана пра скасаваньне Уніі, Скрыпіцын прасіў Віцебскага, Магілёўскага і Смаленскага генерал-губэрнатара аб высылцы з Сеньненскага павету Віцебскай губерні 14 сьвятароў, якія ў верасьні мінулага году падпісалі прашэньне ў абарону уніі на царскае імя [3, арк.19-21, 29 адв.]. 25 лютага 1839 году ў Віцебску ўпартыя ўніяцкія сьвятары трымалі адказ перад самім царскім пасланьнікам. Прысутнічаў запрошаны ім палкоўнік корпусу жандараў Куцынскі. Абвінавачаныя ў супрацьдзеяньні імператарскай волі, застрашаныя, безабаронныя і маральна зламаныя, яны вымушаны былі даць пісьмовае абяцаньне, што «заўсёды будуць павінавацца сьвятой волі манарха і ...уладам». Адзін толькі а. Адам Ранчэўскі ад такога абавязацельства, а, значыць, як дамагаліся высокапастаўленыя сьледчыя, ад пакоры ўладам адмовіўся, «выявіў дух упартасьці і дзёрзкага свавольства». Па распараджэньні Скрыпіцына яго павезьлі пад паліцэйскім канвоем у Полацак, да Аршанскага япіскапа Васіля. Далейшы лёс сьвятара быў прадвызначаны [2, арк. 1-2].

Потым Скрыпіцын паехаў у Магілёў і Менск, каб там даваршыць справу «ўзьяднаньня ўніятаў». Але варта было яму часова выехаць з Полацка, як пачалася новая хваля антыўзьяднаўчых хваляваньняў. «Злосьць ворагаў... ня дрэмле»,— канфідэнцыйна паведамляў оберпракурору Сінода Аршанскі япіскап Васіль Лужынскі. «Гэтыя ворагі туземцы ў час ад'езду пана камергера Скрыпіцына [...] распусьцілі чуткі, [...] быццам бы ён адкліканы ў Пецярбург і ўжо болей ня вернецца». Сяляне шэрагу парафіяў пад узьдзеяньнем гэтых чутак адмовіліся аддаць ключы ад сваіх цэркваў новым, прызначаным гэтым уладыкам, «добранадзейным сьвятарам». Адных бунтаўшчыкоў япіскапу Васілю ўдалося супакоіць самому з дапамогай мясцовых «добранадзейных» памешчыкаў. Для ўтаймаваньня ж іншых прыйшлося зьвярнуцца па дапамогу да генерал-губэрнатара Дзякава.

Выкліканыя ад'ездам Скрыпіцына чуткі натхнілі некаторых сьвятароў, што паставілі свой подпіс пад зваротам 111-ці да цара, на новую «дзёрзкасьць». Яны, якія быццам раскаяліся перад камергерам, цяпер зноў «моцна стаяць на сваім», сьцьвярджаюць, што высланыя сьвятары не пазьней траўня — чэрвеня вернуцца ў свае парафіі. Адзін з іх, Ігнат Малішэўскі, які «здаваўся агнцам перад панам Скрыпіцыным», нібыта ў насьмешку прасіў кансісторыю пасьляшацца з вырашэньнем яго лёсу. Сьвятары Казаневіч і Макавецкі, якіх высылалі ў Курск, разьвітваючыся з сваімі парафіянамі, публічна заклікалі іх стаяць за сваю веру, байкатаваць новых сьвятароў. Завяралі, што яны хутка вернуцца, застаўшыся ўніятамі. Памешчык Валяр'ян Місевіч таксама агітаваў тады сваіх сялянаў байкатаваць сьвятароў, што зьмянілі веру.

Як толькі Скрыпіцын вярнуўся ў Полацак, гэтыя «шкодныя» чуткі сьціхлі. Япіскап В.Лужынскі інфармаваў тады обер-пракурора Сіноду, што прысутнасьць у Полацку Скрыпіцына «як руплівага і бескарысьлівага дзеяча паскарае ход справы адносна уніі», таму «пры цяперашніх абставінах неабходна», бо тады «і духавенства робіцца больш паслухмяным, а прыхаджане — ціхмяныя» [5, арк. 1-5 адв.].


1. *Дзяржаўны архіў Расейскай Федэрацыі, г.Масква. Ф. 109. IV аддзяленьне. 1839 год. Воп. 179, спр. 58.*
2. *Дзяржаўны архіў Расейскай Федэрацыі, г. Масква. Ф. 109. IV аддзяленьне. 1839 год. Воп. 179, спр. 96.*
3. *Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. г. Менск. Ф. 1297, воп. 1, спр. 11116.*
4. *Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў, г. Санкт-Пецярбург. Ф. 797, воп. 7, спр. 23446.*
5. *Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў, г. Санкт-Пецярбург. Ф. 797, воп. 9, спр. 25802.*
6. *Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў, г. Санкт-Пецярбург. Ф. 797, воп. 87, спр. 18.*
7. *Расейскі дзяржаўны гістарычны архіў, г. Санкт-Пецярбург. Ф. 797, воп. 87, спр. 22.*
8. *Radwan M. Carat wobec kościola greckokatolickiego w zaborze rosyjskim 1796-1839. Roma-Lublin, 2001.— 504 s.*



# Малебен за абаронцаў веры і Бацькаўшчыны

*«Няма большай за тую любоў, як калі хто пакладзе жыцьцё сваё за сяброў сваіх» (Ян 15, 13)*

***Духоўнае жыцьцё Баранавіцкай грэка-каталіцкай парафіі сьв. роўнаапостальных Кірылы і Мятода апошнім часам становіцца больш актыўным, нягледзячы на перашкоды, якія нам увесь час падкідае няпростае жыцьцё. Сёлета, 28 чэрвеня, нашыя вернікі сумесна з баранавіцкай грамадзкасьцю ўшанавалі памяць абаронцаў Бацькаўшчыны ў трынаццацігадовай вайне Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў з Маскоўскай дзяржавай 1654-1667 гг. Роўна 345 гадоў таму ў гэты дзень ля мястэчка Палонка (цяпер Баранавіцкі раён) у падкове аднайменнай ракі аб'яднанае войска Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай ушчэнт разьбіла значна пераўзыходзячае па колькасьці войска маскоўскіх захопнікаў. Нашыя продкі былі перакананыя, што гэтая цудоўная перамога здарылася толькі дзякуючы заступніцтву Маці Божай Жыровіцкай.***

Ушанаваньне памяці абаронцаў Бацькаўшчыны, што загінулі ў бітве, якая адбылася тут 28 чэрвеня 1660 году, пачалося з памінальнага набажэнства ў палонкаўскім бярэзьніку, ля памятнага каменя «Жаўнерам-пераможцам ВКЛ і Кароны Польскай». Службу адправіў душпастыр баранавіцкіх уніятаў айцец Яўген Маліноўскі. У гэты будзённы чэрвеньскі дзень у Палонку прыехаў поўны аўтобус грэка-католікаў і людзей іншых хрысьціянскіх канфесіяў нашага гораду. Палітая крывёю нашых продкаў Палонкаўская зямля такой колькасьці людзей на гэтым месцы ня бачыла ўжо ад пачатку 1990-х гадоў, калі быў усталяваны гэты памятны камень.

Імша (так традыцыйна называюць усходнюю літургію ў нашых мясьцінах многія праваслаўныя) была па-сапраўднаму ўрачыстай, мы шчыра маліліся за душы нашых жаўнераў-пераможцаў і адначасна сьвяткавалі перамогу дабра над злом. Людзі стаялі вакол каменя падковай, як некалі на полі, што насупраць праз шашу, 345 гадоў таму стаялі на сьмерць нашыя мужныя ваяры-абаронцы Бацькаўшчыны, свайго народу і праўдзівай Хрыстовай веры. Сонейка ветліва лашчыла твары людзей, што ўзносілі хвалу Богу і падзяку прашчурам за адваяваную свабоду. Аўтамабілі, што праязджалі ў гэты час па шашы, прытармажвалі, многія спыняліся й слухалі — іх цікавіла, што тут адбываецца. Таксама й міліцыянты, спыніўшыся, не перашкодзілі агульнай малітве. Адчувалася, што ў гэтым малітоўным супакоі разам з намі прысутнічаюць душы нашых ваяроў і Сьвяты Дух, які, здаецца, зыходзіў сонечнымі прамянямі на сьвятара і на людзей, што маліліся.

Слова ўзяла студэнтка Баранавіцкага эканоміка-юрыдычнага каледжу Яна Норкіна. І ўсе прысутныя разам з ёю адправіліся ў падарожжа па падзеях, што адбываліся на нашай зямлі ў 1654-1667 гадох.

21 траўня 1654 г. пачалася самая крывавая ў гісторыі Беларускай дзяржавы (Вялікага Княства Літоўскага) вайна — з маскоўскімі захопнікамі. За трынаццаць гадоў вайны вораг з Усходу зьнішчыў больш за палову насельніцтва Беларусі (ВКЛ), а шмат паветаў усходніх ваяводзтваў наогул абязьлюдзелі. Пазьней гэтай страшнай вайне гісторыкі далі трапную назву — «Патоп» (яна апісана ў аднайменным рамане Генрыка Сянкевіча).

Паводле сучасных сусьветных нормаў гэта быў сапраўдны генацыд над ліцьвінамі (беларусамі). Князь Трубяцкі ў сваіх справаздачах, якія рэгулярна дасылаў расейскаму цару, пакінуў для гісторыі падрабязныя дакументальныя апісаньні тых зьверстваў расейскіх заваёўнікаў на нашай зямлі.

Мяркую, чытачу будзе цікава пазнаёміцца з яго пасланьнямі, прачытаўшы ўрыўкі з «Баярскіх араторыяў» баранавіцкага паэта Алеся Корнева, якія зьяўляюцца вершаванай апрацоўкай арыгінальных лістоў Трубяцкога.

**Арыя 1654 году**

*«Государь ты мой, возгордись холопами.*
*Шли дорогами, пробирались тропами.*
*Все отряды гетмана, Радзивилловы,*
*Незначительные. Мы разбили их.*
*...*
*Неприятель в панике только мечется.*
*Рогачёв сожгли дотла, так же Речицу.*
*Жлобин, Горваль жгли и до Стрежина.*
*Наши люди ратные — ох, потешные! —*
*Ихних жён, девиц растлевали с шалостью,*
*А мужей посекли всех, да без жалости.*
*Ещё Мир сожгли, обложили Ляховичи.*
*Вырезаем всех: и мещан, и шляхтичей.*
*И крестьян окольных сумели высечь мы.*
*Убиенных тьма, их не счесть на тысячи.*
*Ну, а лучшие для тебя оставлены*
*И в Москву, и в Тулу уже отправлены.*
*И к другим боярам на поселение,*
*По твоему, светлейший наш, повелению».*

**Арыя 1655 году**

*«Государь ты наш, Алексей Михайлович,*
*А в тридцатый день уж не стало Сталавич.*
*И людей всех высекли без остатку мы,*
*И сгорели битые вместе с хатками.*
*Милостивец светлый наш, аккуратные*
*У тебя всегда мы, холопы ратные.*
*Потому тебе шлём благую весть:*
*Взяли город Мышь и сожжён он весь,*
*И в старании боевых потех,*
*Как мышей, людей перебили всех.*
*Воевали Слоним да и Жировичи,*
*Униатов тотчас высекли, ловячи.*
*Сено жгли и хлеб, и усадьбы выжгли мы.*
*Разорили всё. Выжить им немыслимо.*
*Княжество Литовское нами сломано.*
*Земли все вдоль Припяти и вдоль Нёмана*
*Уж навеки вечные государевы.*
*Здесь ногою твёрдою крепко стали мы!»*

Гэта была вайна цывілізацыяў і культур. Маскавіты ў вайне супраць Беларускай дзяржавы ВКЛ прыкрываліся ідэяй праваслаўнага адзінства і аднаўленьня сваёй улады на нібыта некалі страчаных тэрыторыях. Нашыя ж ваяры вялі справядлівую абарончую вайну за свабоду, цэласнасьць і незалежнасьць сваёй дзяржавы. Яны ратавалі ад варварскага вынішчэньня старажытны славянскі народ еўрапейскай культуры, сваю хрысьціянскую веру, свае традыцыі і звычаі.

У 345-ю гадавіну перамогі войскаў Беларускай дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага і Кароны Польскай у Палонкаўскай бітве баранавіцкія студэнты прачыталі вершы мясцовага паэта Алеся Корнева з яго апошняй кнігі «Крыжы зямелькі нашае».

*Успомні нас, нашчадак, ідучы*
*Па сьцежках стоптанай краіны.*
*Хадзілі тут калісьці крывічы,*
*Вольналюбівыя ліцьвіны.*
*На лес, на рэчкі глянь і на палі*
*І можа знойдзеш россып друзу,*
*І ўспомніш тых, што тут жылі,*
*Успомніш браткаў-беларусаў.*

На вялікі жаль, сёньня людзі мала ведаюць пра тыя жудасныя падзеі, што адбываліся на нашай зямлі некалькі стагоддзяў таму. На падставе архіўных крыніцаў іх грунтоўна рэканструяваў вядомы гісторык Генадзь Сагановіч, які напісаў пра гэтую крывавую вайну кнігу пад назвай «Невядомая вайна».

Будзьма ж мы, нашчадкі вольналюбівых ліцьвінаў, годнымі захавальнікамі памяці продкаў і пасьлядоўнымі адраджэнцамі Хрыстовай веры на Беларускай зямлі.

Папросім Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб умацаваў нас у веры, натхніў на стваральную працу, і каб запанавала справядлівасьць Божая на нашай зямлі.

...Хай ня будзе дарэмнай тая ахвяра, і няхай на залітай іх крывёю зямлі закрасуе шчырая братняя любоў і сьвеціць сонца волі і шчаснай долі народу. А іх саміх залічы, Госпадзе, у лік Тваіх шчасьлівых слугаў. Яны цярпліва прайшлі цярністы шлях жыцьця і сваёю сьмерцю далі сапраўднае сьведчаньне вернасьці Табе. Хай цешацца шчасьлівым агляданьнем Цябе праз векі вечныя. Амін.

Скончылася сьвяточнае мерапрыемства малебнам за Беларусь і беларускі народ, сьпевам беларускіх гімнаў: нацыянальнага — «Пагоня» і рэлігійнага — «Магутны Божа».

**Уладзімір ГУНДАР**, *г.Баранавічы*

*У рэдакцыю беларускай грэка-каталіцкай газеты «ЦАРКВА» час ад часу прыходзяць лісты нашых суродзічаў з-за мяжы (прыкладам, ня так даўно — ад сп. Кастуся Вераб'я з Фармінгдэйла, ЗША), у якіх яны запытваюцца ў нас, якім чынам яны маглі б атрымліваць газэту «ЦАРКВА» па-за межамі Беларусі.*

**Кошт падпіскі на газету «ЦАРКВА»** на год з улікам паштовых выдаткаў **для падпісчыкаў у Заходняй Еўропе, ЗША, Канадзе і Аўстраліі** складае **10 USD** або **8 EURO (з календаром газеты «ЦАРКВА» — 15 USD** або **13 EURO)**.

Ахвяраваньне трэба пераслаць чэкам на адрас Апостальскага Візітатара для грэка-католікаў у Беларусі архімандрыта Сяргея (Гаека):

*Archim. Sergio Gajek*
*Missione Greko-Cattolica*
*via Corsica 1*
*I - 00198 Roma, Italia*

Таксама можна перадаць ахвяраваньне прынагодна (напрыклад, праз знаёмых у Беларусі), скантактаваўшыся з намі па адрасе Рэдакцыі газеты «ЦАРКВА»:

*вул. Дворнікава, 63*
*224014 г.Берасьце, Беларусь*
*tel./fax: +375 (162) 24-74-82*
*e-mail: bgkc_carkva@tut.by*









# Новы сьвятар

## у нашай Царкве – а. Андрэй Крот











*• 2 ліпеня 2005 году, царква Раства Хрыстова г.Івана-Франкоўска (Украіна). Уладыка Сафрон Мудры, біскуп Івана-Франкоўскі, удзяляе сьв. Тайну Сьвятарства дыякану Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Андрэю Крату.*

**Царква**

*грэка-каталіцкая газета*
*№ 2 (45), 2005*

**Адрас рэдакцыі:**
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
**e-mail: bgkc_carkva@tut.by**

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія святых братоў-апосталаў Пятра і Андрэя у г.Берасьці
**Пасьведчаньне аб рэгістрацыі:** № 1055 ад 27.11.1997 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар Кандрацьеў
**Царкоўны асістэнт:** а. Андрэй Сідаровіч (MIC)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй Крот, STM
**Выпускны рэдактар:** Ігар Бараноўскі
**Падпісана ў друк:** 14 верасьня 2005 году, а 23-30
**Паліграфічныя работы:** ООО "Телер" (Ліцэнзія № 00595) [illegible] 2/3, 121[illegible] г.Масква. **Замова № 197.**
**Аб'ём** 2,5 друк. арк. **Наклад** 1850 асобнікаў

*НАШ РАХУНАК:*
*№ 3015200210017*
*у філіяле № 2/01*
*г.Берасьця*
*ЗАТ "Абсалютбанк",*
*МФО 150501242,*
*УНП 200558013*

*Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем усім за ахвяраваньні на газету "Царква".*

# РАЗАМ

газета грэка-каталіцкіх семінарыстаў № 3(19)-2005

# Моладзь на сустрэчы з Папам

***Пра сустрэчу Папы Рымскага з моладдзю з усяго сьвету ў Кёльне мы, менская моладзь парафіі сьв. Язэпа, даведаліся яшчэ ў сьнежні мінулага году. Мы і раней ведалі, што адбываюцца падобныя сустрэчы моладзі. У свой час многія беларускія грэка-каталікі пабывалі на Сусьветных Днях Моладзі ў Парыжы, у Рыме, хіба толькі за акіян, у Таронта, не змаглі трапіць. І вось новая сустрэча — у Кёльне, з новым Папам Бенядыктам XVI.***

Для большасьці хрысьціянскай моладзі, асабліва для тых, хто ня так даўно прыйшоў у Царкву, такія фэсты зьяўляюцца чымсьці незвычайным, недасяжным. Што тут казаць пра людзей, якія ня маюць ніякага дачыненьня да Царквы. Так, пасьля свайго вяртаньня з Нямеччыны, слухаючы радыё Свабода», я ў гэтым упэўнілася яшчэ раз. Падчас падрыхтоўкі рэпартажу было зроблена апытаньне сярод звычайнай моладзі, якую сустрэў карэспандэнт на вуліцах гораду. У выніку размовы з маладымі людзьмі аказалася, што большасьць маладых, нават няверуючыя, паехалі б на такую сустрэчу, але яны лічаць зьдзяйсьненьне такога намеру амаль немагчымым, за выключэньнем тоій магчымасьці, калі б Папа сам прыехаў у Беларусь.



*· На сустрэчу з Папам дарога няблізкая...*

Для нас жа, маладых вернікаў БГКЦ, зьявілася цудоўная магчымасьць разам з моладдзю з самых розных краінаў сьвету ўзяць удзел у Сусьветным Дні моладзі ў Кёльне,разам маліцца, разам вітаць Папу. Наогул, у Кёльн на сустрэчу з Папам з Беларусі прыехала больш за тысячу чалавек.

Паломніцкі шлях усіх маладых пілігрымаў у Кёльн пачынаўся з падрыхтоўкі да сустрэчы з Сьвятым Айцом. Яе ладзілі розныя царкоўныя рухі і супольнасьці ў розных гарадах і краінах.

(Працяг на с. 3)



*· Беларуская моладзь у Кёльне на Сусьветным Дні Моладзі.*

> **«Дапамажыце людзям адкрыць сапраўдную Зорку, якая паказвае нам дарогу: Ісуса Хрыста!»**
>
> *(З гаміліі Сьвятога Айца Бенядыкта XVI на полі Марыянфэльд на XX Сусьветным Дні Моладзі ў Кёльне, 21.08.2005)*

# Лета – час скаўтаў

***Лета — гэта час скаўтаў, менавіта таму сёлета адбыўся летнік Скаўтаў Еўропы на маляўнічым беразе ракі Бярэзіны. У ім бралі ўдзел тры кап'і хлопцаў і тры кап'і дзяўчынаў.***

Яшчэ не пасьпеў адысьці першы дзень мерапрыемства, а тэрыторыя лагера запоўнілася рознымі неабходнымі для жыцьця скаўтаў канструкцыямі. Быў устаноўлены флагшток на паляне для агульных збораў, шыхтовак, «краалі» — месца збору кап'явых, намёты паасобных коп'яў, а таксама заўсёды важны туалет. У гэты самы дзень адбылося ўрачыстае адкрыцьцё летніка. Пасьля скаўцкія лідары і госьці сабраліся ў «краалі» на гарбату, дзе і адбылася сяброўская размова.

На пытаньне аднаго з гасьцей, што азначае скаўтынг, ахвотна распавёў вандроўнік Васіль: «Скаўтынг — гэта перад усім педагогіка. Будучы скаўтам, я ўношу свой сьціплы ўклад у выхаваньне моладзі, а значыць таксама спрычыняюся да разьвіцьця нашай Бацькаўшчыны».

Наступнае пытаньне да Васіля было пра тое, чаму сярод шматлікіх скаўцкіх арганізацыяў ён абраў менавіта Скаўтаў Еўропы. Васіль патлумачыў: «Справа ў тым, што толькі Скаўты Еўропы дэкларуюць сябе як практыкуючых хрысьціянаў. Нашая праграма выхаваньня прадугледжвае таксама выхаваньне рэлігійнае, хрысьціянскае.

(Працяг на с. 4)

# «Папа-танк» і «персанальны Ісус»

***Не сьціхаюць у СМІ разнастайныя сенсацыі пра новаабранага Папу Бенядыкта XVI і апошнія падзеі ў Каталіцкай Царкве. Вось толькі некаторыя ярлыкі-тытулы, якія прыдумваюць журналісты, каб зьвярнуць на сябе ўвагу чытачоў: «Папа-кансерватар», «Папа-традыцыяналіст», «браніраваны Папа», «...на Сусьветных Днях Моладзі: моладзь мае да Папы два асноўныя пытаньні: ці дазволіць Царква карыстацца прэзерватывамі і жыць сэксуальным жыцьцём перад шлюбам?..»***

Калі чуеш такія выказваньні, то адразу ўзгадваецца польскае: *«Co ma piernik do wiatraka?»*. Аднак тэндэнцыйнасьць і заангажаванасьць падобных загалоўкаў, на жаль, не заўсёды відавочная нават для веруючых і практыкуючых хрысьціянаў. Зьяўляецца спакуса прыняць нейкую сьвецкую тэрміналогію і логіку, пачаць разважаць пра Папу і Царкву ў катэгорыях, якія *a priori* супярэчаць рэчаіснасьці Царквы.



· *Сустрэча з Папам: беларускі сьцяг на полі Марыянфэльд у Кёльне.*

Возьмем, напрыклад, хоць бы гэтае супрацьпастаўленьне: «ліберал» і «кансерватар» у стасунку да Папы Рымскага. Калі запытаем, што гэта азначае, у тых, якія звычайна ўжываюць гэтыя палітычныя тэрміны ў стасунку да Папы, то можам пачуць пэўныя тлумачэньні. З іх выяўляецца, што папа-ліберал — гэта такі папа, які адменіць цэлібат лацінскага духавенства, дазволіць жаночае сьвятарства, ужываньне кантрацэптываў, аборты і г.д. Папа-кансерватар (ён жа «папа-традык») — гэта такі папа, які, канешне ж, будзе супраць усяго вышэй пералічанага, а ў дадатак яшчэ й забароніць міністрантак і прычасце «на рукі».

Трэба заўважыць, што гэтак акрэсьленыя «лібералізм» і «кансерватызм» зьяўляюцца прычынай вельмі вялікай блытаніны. Калі паглядзім крытычна на гэтую інтэрпрэтацыю (назавем яе для яснасьці палітычнай інтэрпрэтацыяй), пабачым, што ў ёй перамешаны і штучна спалучаны рэчы, якія знаходзяцца на розных плоскасьцях рэчаіснасьці. Напрыклад, цэлібат духавенства — гэта царкоўная дысцыпліна, якая тэарэтычна можа зьмяніцца; аборт жа — гэта забойства, парушэньне нязьменнага Божага права, у справе абортаў Царква ніколі ня зьменіць сваёй навукі. Калі браць пад увагу ў вызначэньні «кансерватыўнасьці» гэтую апошнюю плоскасьць, то аказваецца, што кожны веруючы і практыкуючы хрысьціянін ад мозга касьцей «традык і кансерва», ну, бо кожны хрысьціянін будзе супраць забойства! Падобна і з жаночым сьвятарствам, і з кантрацэптывамі — праблемы гэтыя знаходзяцца на розных пласкасьцях і падыход да іх розны.

· *Моладзь на вуліцах Кёльну сустракае Сьвятога Айца.*

## «НЕ» — «ПЕРСАНАЛЬНАМУ ІСУСУ»

Разважаць пра Царкву ў катэгорыях палітычных ня мае сэнсу. Робяць гэтак тыя, хто бачыць у ёй толькі палітычную сілу, пэўную ідэалогію, а таксама тыя, хто па-сапраўднаму нічога ня ведае пра Царкву. У гэтым кантэксьце асаблівую вартасьць маюць словы Бенядыкта XVI, якія сказаў ён моладзі, што сабралася ў Кёльне на полі Марыянфэльд: «Не ідэалогіі збаўляюць сьвет, але толькі зварот да жывога Бога».

Сьвяты Айцец асьцерагае таксама, каб рэлігія ня стала як прадукт спажываньня, які абіраецца залежна ад патрэбы. Бо такая рэлігія, якая дзейнічае па прынцыпу «зрабі сабе сам» — зручная толькі да часу. У хвіліну крызісу яна пакіне нас саміх сабе. Папа тлумачыць: «Гэта значыць, што мы не ствараем сабе асабістага Бога, персанальнага Ісуса, але, што мы верым у Таго Ісуса, і падаем на твар перад тым Ісусам, Які паказаны нам праз Сьвятое Пісаньне і Які ёсьць у вялікім паходзе верных, што называецца Царквою, аб'яўляе Сябе як Той, Які жыве заўсёды з намі і, разам з тым, заўсёды перад намі».



· *Сустрэча моладзі ў Кёльне — гэта цікавыя знаёмствы і новыя сябры. А разам заўсёды прасьцей адшукаць верную дарогу.*

Папа таксама нагадаў пра вартасьці «Катэхізісу Каталіцкай Царквы», а таксама нядаўна выдадзенага Кампендыума гэтага Катэхізісу. Сьвяты Айцец рэкамендуе нам гэтыя кнігі, бо «важна ведаць веру Царквы, якая тлумачыць Сьвятое Пісаньне». Гэткім чынам ён прапануе нам іншы падыход да веры — не падыход абстрагаваных разважаньняў, але падыход канкрэтны. Ён ня кажа «будзьце традыкамі» або «будзьце ліберaламі». Папа кажа нам: «Дапамажыце людзям адкрыць сапраўдную Зорку, якая паказвае нам дарогу: Ісуса Хрыста!».

**А. Б.**

# Моладзь на сустрэчы з Папам

(Заканчэньне са с. 1)

З 11 па 15 жніўня для нас гэтую падрыхтоўку ладзіла Супольнасьць «Эмануэль», якая ўжо ня першы раз шчыра вітае нас у польскім горадзе Вадавіцы, дзе нарадзіўся папярэднік і сябра Папы Бенядыкта XVI Ян Павел II. Дарэчы, Вадавіцы – гэта вельмі гасьцінны горад, які заўсёды адкрыты для ўсіх пілігрымаў, колькасьць якіх за сёлетні год значна павялічылася. Гэта й зразумела, бо большасьць вернікаў лічыць сваім абавязкам пабываць на радзіме Яна Паўла II, укленчыць у касьцёле, у якім так многа часу праводзіў малады сьвятар, зайсьці ў доммузей, у якім раней жыла сям'я Вайтылаў, прайсьціся па вулачках Вадавіцаў, вядома, паспрабаваць «крэмуўкі» — любімы ласунак Яна Паўла II.

У Вадавіцах мы правялі пяць дзён. Яны былі перапоўнены ўражаньнямі, духоўнымі набыткамі і перажываньнямі, а таксама новымі ведамі ды знаёмствамі. Гэта й зразумела, бо праграма ў Вадавіцах заўсёды вельмі напружаная.



· Падчас адной з канферэнцыяў у Вадавіцах.

А восьмай гадзіне — ранішняя малітва, канферэнцыя, затым літургія, семінары, сустрэчы ў групах дзяленьня, гадзіна вольнага часу, а потым канцэрт або зноў канферэнцыя. Напрыканцы праграмы нашай падрыхтоўкі была адарацыя.

Дарэчы тут, у Вадавіцах, акрамя агульнай праграмы, была магчымасьць удзельнічаць у семінарах па інтарэсах, дзе кожны мог выбраць тэму, якая цікавіла менавіта яго: сям'я, што значыць быць жанчынай або мужчынам, як быць шчасьлівым... А тым, каму падабаецца актыўны лад жыцьця, можна было заняцца танцамі або пантамімай. Такім чынам, кожны мог выбраць менавіта тое, што яго цікавіць. Вось у такім напружаным рытме прайшоў наш побыт у Вадавіцах.

Прыйшоў час разьвітаньня з горадам, які мы так палюбілі. Усе трынаццаць аўтобусаў з моладдзю з Польшчы, Беларусі, Украіны, Славакіі і Расеі рушылі ў дарогу, каб сустрэцца з Папам Рымскім Бенядыктам XVI.

Наша сустрэча адбылася на беразе Рэйну, па якім ён прыплыў у Кёльн разам з моладдзю. Каб вітаць Папу, прыйшло каля мільёну чалавек. Такім чынам, абодва берагі былі поўныя маладых людзей, якія трымалі ў руках сьцягі сваіх краінаў і віталі Папу на мовах усяго сьвету. Так, я не памыляюся. Тут, у Кёльне, можна было сустрэць ня толькі еўрапейцаў і амерыканцаў, але нават афрыканцаў. Такім чынам, традыцыя, пачатак якой паклаў Ян Павел II, сапраўды змагла аб'яднаць моладзь розных краінаў і народаў.



· Грэка-каталіцкая сьв. Літургія для пілігрымаў з Беларусі ў адным з храмаў Кёльну.

Вечарам гэтага ж дня Папа Бенядыкт XVI адслужыў імшу ў Кёльнскім саборы. Дарэчы, падчас яе ганаровую службу несьлі скаўты, якіх на Сусьветны Дзень Моладзі зьехалася нямала. А праз дзень Папа зноў сустрэўся з моладдзю, але на гэты раз сустрэча адбылася на полі, дзе маладыя людзі правялі цэлую ноч у чуваньнях і забаўляньнях. Раніцай Бенядыкт XVI адслужыў нядзельную службу, напрыканцы якой ён падараваў скаўтам сьвятло і даў наказ перадаваць яго з краіны ў краіну, запальваючы гэтым сьвятлом усё новыя і новыя сэрцы. Затым Папа дабраславіў кожнага з удзельнікаў Сусьветнага Дня Моладзі ў Кёльне на шчасьлівую дарогу дадому, а таксама даў пастырскі наказ несьці сьвятло Хрыста тым, хто застаўся дома, на радзіме.

**Дар'я СУША**, *г.Менск*

*«Менавіта тут, у Кёльне, мы адчуваем, як цудоўна належыць да сям'і, вялікай як увесь сьвет, якая ўключае ў сябе неба і зямлю, мінулае, цяперашняе і будучыню, усе канцы сьвету. У гэтай вялізнай грамадзе пілігрымаў мы ідзем разам з Хрыстом, мы ідзем разам з зоркай, якая асьвячае гісторыю».*

*(З прамовы Бенядыкта XVI на малітоўным чуваньні з моладдзю).*



· Фэст у Вадавіцах — адзін з этапаў падрыхтоўкі да XX Сусьветнага Дня Моладзі ў Кёльне.

# «Я ўбачыў вас, і мне захацелася быць з вамі»

***З 1994 году Беларуская Грэка-Каталіцкая Царква штогод ладзіць пілігрымкі з Віцебску ў Полацак для ўшанаваньня Полацкіх мучанікаў. Сёлета адзначаліся 300-ыя ўгодкі мучаніцкай сьмерці манахаў-базыльянаў, закатаваных 11 ліпеня 1705 году царом Пятром I ў катэдры сьв.Сафіі ў Полацку. Прапануем інтэрв'ю з адказным за арганізацыю пілігрымкі з Віцебску ў Полацак айцом Зьміцерам Грышанам.***

***— Айцец Зьміцер, распавядзіце, калі ласка, як Вам падаецца, ці ёсьць штосьці адметнае ў нашай пілігрымцы «Віцебск-Полацак»?***

— Першы раз я пайшоў у пілігрымку «Віцебск-Полацак» яшчэ як семінарыст у 1999 годзе. З перспектывы часу магу сказаць, што хоць я і быў у розных пілігрымках, але нашая пілігрымка мне спадабалася і падабаецца больш за іншыя. Думаю, што прычынай гэтага ёсьць асаблівая атмасфера, якая пануе тут. Маю на ўвазе, што шматлікія пілігрымкі прынялі, на жаль, «папсовую форму»... Гэтага пазьбегла нашая пілігрымка: у ёй ёсьць месца на спантаннасьць, непасрэднасьць. Аднначасова я рызыкнуў бы сьцьвердзіць, што адрозьніваецца яна ад іншых сваёй, у добрым сэнсе, традыцыйнасьцю. Акрамя гэтага, трэба падкрэсьліць, што кожны мог знайсьці сваё месца ў пілігрымцы: былі групы, якія сьпявалі, маліліся, а таксама такія, якія дзяліліся паміж сабой духовымі перажываньнямі.

***— Ці сёлетняя пілігрымка каштавала Вам, як арганізатару, шмат высілкаў?***

— Гэта праўда, што я быў адказны за арганізацыю пілігрымкі, але мне не давялося прыкладаць шмат высілкаў. Справа ў тым, што маршрут даўно ўжо быў вызначаны, тэхнічна-харчовы бок забясьпечваў, як заўсёды, Мікола Шарах... Канешне, я рыхтаваўся тэматычна, таксама падаваў заяўку ў аблвыканкам, але з іншага боку ніколі не рыхтаваўся весьці пілігрымку самастойна.

***— Дарэчы цікава, а як ставяцца да нашай пілігрымкі ўлады?***

— Чыноўнікі ставяцца да нас добра, ветліва. Да нас яны ўжо прызвычаіліся... Аднойчы нават пераблыталі нас з пілігрымкай, якая ідзе з Віцебска ў Будслаў...

***— Скажыце, ойча, ці адчуваюцца нейкія духоўныя плёны пілігрымкі?***

—' Калі гаворка ідзе пра духоўны плён пілігрымкі, то магу засьведчыць, што мае месца рэальна бачны ўплыў пілігрымкі на пілігрымаў. Толькі праз мяне ў часе пілігрымкі заўсёды праходзяць адзін-два чалавекі ад нявeры да веры! Думаю, што ў гэтым кантэксьце можна казаць пра подзьвіг пілігрымаў. Пілігрымка вымагае ад ўдзельнікаў розных адрачэньняў. Яны дапамагаюць адчуць Божую прысутнасьць у сваім сэрцы. Акрамя гэтага можна казаць пра ўплыў на «непілігрымаў», тых людзей, якіх мы проста сустракалі па дарозе. Многія з іх казалі: «Я ўбачыў вас, і мне захацелася быць з вамі».



*· Шляхі пілігрымаў вядуць у Полацкі манастыр айцоў-студытаў.*

Быў цікавы досьвед: у Шуміліна мы ішлі першы раз праз сам горад цэнтральнай вуліцай. На ёй шмат розных будынкаў, у тым ліку дзяржаўных установаў... І вось для людзей гэта была сенсацыя! Яны выходзілі з будынкаў на вуліцу або высоўваліся праз вокны... Бачу ў гэтым пэўную сымбалічнасьць: яны, гэтыя людзі, бачылі людзей, якія могуць жыць інакш: напрыклад, узяць адпачынак і замест таго, каб паехаць на Чорнае мора, пайсьці ў нейкі дзіўны стакіламетровы «паход». Гэтая здольнасьць, па-царкоўнаславянску «иночество» — вось тое, што па-сапраўднаму прыцягвала гэтых людзей.

***— Што Вы хацелі б напрыканцы гэтай размовы сказаць чытачам «Разам»?***

Хацелася б, вядома, запрасіць усіх у пілігрымку. Прыходзьце, каб дасьведчыць на сабе дзеяньне Сьвятога Духа!

***— Дзякуй вялікі!***

*Размаўляў Андрэй БУЙНІЧ*

# Лета – час скаўтаў

(Заканчэньне са с. 1)

У нашую арганізацыю ўваходзяць прадстаўнікі розных канфесіяў: каталікі розных абрадаў, праваслаўныя і пратэстанты. Рэлігійныя патрэбы й выхаваньне забясьпечваюць нашыя сьвятары. Таксама вось і на гэтым летніку духоўную варту нясе айцец Андрэй (ківае ў бок маладога й вясёлага сьвятара, які знаходзіцца побач)».

Аўтар гэтых радкоў ня мог устрымацца, каб не паразмаўляць з а. Андрэем. Першае пытаньне ўзьнікла само сабой і было пра тое, чым займаецца і за што адказны душпастыр у летніку. «Ну, напрыклад, сёньня ім суп зварыў», — адказвае а. Андрэй і сьмяецца, — «а калі сур'ёзна, то душпастыр адказны за духоўнае разьвіцьцё скаўтаў і, як ужо зазначыў Васіль, за забесьпячэньне духоўных патрэбаў сваіх выхаванцаў (вучу малітве й Божаму Слову, спавядаю і духоўна кірую)... Хачу таксама з вамі падзяліцца, што я асабіста вельмі ўсьцешаны тым, што тут, у летніку, знаходзяцца скаўты двух каталіцкіх абрадаў: візантыйскага ды лацінскага. Лічу, што гэта нас вельмі ўзаемна ўзбагачае».

Вось у атмасферы такіх пытаньняў і гарачай гарбаты праходзіла размова скаўтаў і іх гасьцей, а адначасова праходзіў і цёплы вечар. Усё больш і больш вылятала на начное паляваньне камароў, але ці ж маглі яны зьмяніць надвор'е духа, якое запанавала ў скаўцкім летніку? Пэўна, што не! Скаўты прызвычаіліся пераадольваць і больш складаныя перашкоды на шляху да Бога, самавыхаваньня і служэньня іншым.


РАЗАМ № 3 (19) - 2005

дадатак да газеты «Ца9ква», № 3 (46)



Адказны за выпуск:
Андрэй БУЙНІЧ

ПІШЫЦЕ НАМ:
razam_bgkc@tut.by



al.Andrej Bujnicz
W.S.D., ul.Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA